## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА АДЗІНУЮ У БССР МАСАВУЮ КАЛГАСНУЮ ЧАСОПІСЬ

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

**(Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР)**

**Часопісь шырока асьвятляе на сваіх старонках жыцьцё і працу саўгасаў, калгасаў, МТС, СТКФ і МТФ.**

**На старонках часопісі зьмяшчаюцца матар'ялы лепшых спэцыялістых БССР аб павышэньні ўраджайнасьці, лепшым утрыманьні жывёлы, аб лепшай апрацоўцы глебы і г. д. Шырока асьвятляецца вопыт барацьбы калгасаў за падняцьце калгаснай вытворчасьці.**

**У часопісі заўсёды можна знайсьці адказ на ўсялякае запытаньне па сельскай гаспадарцы.**

**Часопісь шырока асьвятляе ўсе гаспадарча-палітычныя кампаніі.**

**Рэгулярна кожны месяц часопісь дае літаратурны аддзел, у якім зьмяшчаюцца апавяданьні, вершы, нарысы пра калгаснае будаўніцтва.**

**Часопісь выходзіць два разы ў месяц з шматлікімі малюнкамі і фота-здымкамі і каштуе ўсяго толькі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | (24 нумары) | . . 3 руб. | 60 кап. |
| „ 6 мес. | (12 „ ) | . . 1 „ | 80 „ |
| „ 3 „ | ( 6 „ ) | . . — „ | 90 „ |

**Падпіску здавайце на пошту, альбо лістаносцу.**

**Адрас рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ




## ЗЬМЕСТ




№ 9

ВЕРАСЕНЬ

1932 г.


# Даць краіне дзесяткі тон дадатковых харчовых рэсурсаў!

У разгорнутай клясавай барацьбе рабочая кляса і працоўнае сялянства краіны саветаў штогод бяруць перамогі за перамогамі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Штогод уступаюць у строй новыя фабрыкі і заводы, растуць бальшавіцкімі тэмпамі новыя сацыялістычныя гарады. З аграрна-індустрыяльнай краіна ператвараецца ў індустрыяльна-аграрную. Павялічваецца ўсё больш і больш насельніцтва гарадоў, растуць і мацнеюць рады пралетарыяту.

Але побач з посьпехамі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве мы перажываем некаторыя часовыя цяжкасьці ў справе рабочага забясьпечаньня. Цяжкасьці гэтыя выкліканы нашым бурным ростам. Партыя і ўрад кладуць усе намаганьні, каб у самы кароткі час задаволіць патрэбы працоўнага насельніцтва ў прадуктах. Пры бурных тэмпах росту сацыялістычнай прамысловасьці, аднаасобным сялянскім гаспадаркам было не па сіле задаволіць усе запатрабаваньні апошняй, як у справе забясьпечаньня сыравінаю, так і прадуктамі, толькі саўгасы і калгасы змогуць справіцца з гэтай адказнай задачай. За кароткі час мы дамагліся вялізных дасягненьняў у справе перабудовы вёскі на новы сацыялістычны лад. СССР стала краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце. Тысячы саўгасаў, дзесяткі тысяч калгасаў, МТС—вынік няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі.

Больш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, перамагаючы шалёнае супраціўленьне кулака і яго агентаў—апартуністых, цьвёрда сталі на шлях новага жыцьця—шлях калгасу. На аснове калектывізацыі кулацтва ліквідуецца, як кляса.

Саўгасы і калгасы ўжо сталі асноўнымі вытворцамі і пастаўшчыкамі хлеба, тэхнічнай сыравіны і гародніны. Шпаркімі тэмпамі разгортваецца будаўніцтва буйных сацыялістычных фабрык малака і мяса, разгортваецца ўпартае змаганьне за высокую іх таварнасьць.

Узмацняючы барацьбу за далейшае разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі, бальшавіцкімі тэмпамі вырашаючы мяса-малочную задачу, пастаўленую перад намі партыяй і ўрадам, мы павінны ўсямерна адшукоўваць дадатковыя харчовыя рэсурсы.

У зьмякчэньні часовых цяжкасьцяй у справе рабочага забясьпечаньня мяса-прадуктамі значную ролю павінна адыграць паляўнічая каапэрацыя, кожны паляўнічы. На гэтым вучастку мы ўжо дамагліся некаторых посьпехаў. Арганізаваны і арганізуюцца пры раённых таварыствах паляўнічыя трусагадоўчыя фэрмы. Наша задача—яшчэ больш узмацніць барацьбу за труса, за высокую таварнасьць трусагадоўчых фэрм. Правільная на аснове 6-ці ўмоў т. Сталіна арганізацыя працы на фэрмах, аўладаньне тэхнікай трусагадоўлі, няўхільнае яе ажыцьцяўленьне—дасьць нам новыя перамогі. Трэба толькі справу паставіць так, каб трусагадоўляй займаліся ня толькі праўленьні райтаварыстваў, а і ўся паляўнічая маса, кожны паляўнічы.

Гэта адно з важнейшых мерапрыемстваў, якое дапаможа нам павялічыць харчовыя рэсурсы краіны, другім ня менш важным мерапрыемствам, якое павінна быць праведзена паляўнічымі па баявому, зьяўляецца загатоўка дзічыны. Усякія праваапартуністычныя разважаньні, недаацэнка загатовак дзічыны будзе толькі шкодзіць рабочаму забясьпечаньню. Таму з усёй рашучасьцю трэба біць па такіх настроях, выкрываючы іх сапраўдную сутнасьць, накіраваную на зрыў выкарыстаньня дадатковых харчовых рэсурсаў.

Праўленьнем Белкахотсаюзу прыняты плян загатовак мяса зайцоў. Усяго за чацьвёрты квартал гэтага году трэба загатовіць 35 тон. Трэба сказаць, што гэты плян ня толькі рэальны, гэта значыць яго можна выканаць: у нас ёсьць усе мажлівасьці для таго, каб загатовіць не 35 тон мяса, а значна больш. Калі мы будзем лічыць, што саракатысячнай арміяй паляўнічых будзе здабыта да 1-га студзеня 1933 году 100 тысяч зайцаў, дык, лічачы ў сярэднім кожнага зайца за 2 кіло, атрымаем 200 тон мяса!

Самыя простыя разьлікі, інтарэсы спажыўца рабочага патрабуюць найбольш поўнага выкарыстаньня нашых мажлівасьцяй. А гэтыя мажлівасьці дазваляюць нам загатовіць у два разы больш—ня менш 70 тон. Таму рэдакцыя „Паляўнічы Беларусі“ высоўвае сустрэчны плян у 35 тон. Змагацца за 70 тон мяса зайцоў для рабочага спажыўца!—павінна стаць баявым лёзунгам для кожнага райкалектыву, кожнай паляўнічай ячэйкі, кожнага паляўнічага. Па-бальшавіцку будзем змагацца за поўнае выкарыстаньне дадатковых харчовых рэсурсаў.

Сэзон паляваньня на зайцоў адчыніўся. Трэба разгортваць шырокую падрыхтоўчую работу. Плян загатовак мяса зайцоў трэба давесьці да кожнай ячэйкі, кожнага паляўнічага. Каб ня было абязьлічкі і безадказнасьці, — неабходна вылучыць аднаго з сяброў праўленьня райтаварыства, які павінен неадкладна заняцца гэтым пытаньнем і адказваць, як за разгортваньне масавай работы, так і за выкананьне пляну. Зусім зразумела, што адказныя за загатоўку мяса-дзічыны асоба павінны быць вывучаны і ў паляўнічых ячэйках.

Арганізуючы бальшавіцкае змаганьне за мабілізацыю дадатковых харчовых рэсурсаў, трэба памятаць і ўлічваць памылкі мінулых сэзонаў паляваньня—веснавога і летняга. Адсутнасьць шырока пастаўленай масавай работы, адсутнасьць праверкі выкананьня, зусім дрэнна пастаўленая справаздачнасьць—тады прывялі да прарываў. Гэта сьведчыць пра тое, што многія праўленьні райтаварыстваў пакаліся на праваапартуністычны самацёк замест баявога, апэрацыйнага кіраўніцтва загатоўкамі дзічыны. Гэта яшчэ сьведчыць пра тое, што многія праўленьня райтаварыстваў не перабудавалі сваёй работы па новаму, не ўлічылі новых абставін і задач.

У гэтым крыюцца ўсе прычыны прарываў загатовак мяса-дзічыны ў мінулыя сэзоны паляваньня. Пачынаючы асеньняе паляваньне, мы павінны пакласьці ўсе сілы на тое, каб арганізаваць сапраўднае, бальшавіцкае змаганьне за выкананьне пляну. Сваячасова заключыць дагаворы з каапэрацыяй, сталоўкамі, пільна сачыць за дакладным і няўхільным ажыцьцяўленьнем гэтых дагавароў—першае.

Апрача поўнага выкананьня пляну па дагаворах у нас ёсьць вялікія мажлівасьці для таго, каб наладзіць продаж мяса-дзічыны на калгасным рынку. Трэба, аднак, адзначыць тут зусім нездавальняючы ўдзел паляўнічай сыстэмы ў савецкім гандлі. Яшчэ ні адно таварыства не пабудавала на калгасных рынках ларкоў. Апартуністычныя спасыланьні на тое, што няма чым гандляваць, самацёк і шкодніцкая недаацэнка сваіх сіл і мажлівасьцяй—яшчэ знаходзяць сабе прытулак у асяродзьдзі значнай часткі праўленьняў райтаварыстваў. Гэтыя настроі і імкненьні, якія нічога агульнага ня маюць з тымі новымі задачамі, што пастаўлены цяпер перад паляўнічай каапэрацыяй, рашуча трэба выкарчоўваць. Кожнае таварыства мае поўную магчымасьць арганізаваць ларок, наладзіць продаж праз яго дзічыны, паляўнічых прыладаў, шырока разгарнуць загатоўкі пушмехсыравіны. Наогул усякае праяўленьне ініцыятывы і самадзейнасьці ў гэтым пытаньні паляўнічых дапаможа выйсьці з таго застою, які яшчэ пануе па некаторых таварыствах. Выконваючы дагаворы з каапэрацыяй, мы можам выкінуць і на калгасны рынак дзесяткі тон дадатковых харчовых рэсурсаў.

Другое—гэта правільнае разьмеркаваньне пораху, шроту, капсуляй, пістонаў. Час ужо ліквідаваць ураўнілаўку і ў гэтай галіне. Паляўнічы, які здае больш пушніны, мяса-дзічыны, павінен больш атрымаць і боепрыпасаў. Рашуча трэба змагацца з растранжыраваньнем востра-дэфіцытных прыпасаў і прыладаў, з выдачай пораху і шроту „добра знаёмым“, „начальству“ і „радні“. Тут павінен быць арганізаваны суровы грамадзкі кантроль над работай, паляўнічых крам, над работай крамнікаў. Трэба ажывіць работу насьценных газэт райтаварыстваў. Разгортваньне жорсткай крытыкі і самакрытыкі на сходах, у нізавым друку—пэўная зарука пасьпяховай ліквідацыі прарываў у працы паляўнічай каапэрацыі, зарука выкананьня і перавыкананьня пляну, якія нам дадзены партыяй і ўрадам. Партыйныя ячэйкі на мясцох павінны забясьпечыць сталае кіраўніцтва нізавым друкам паляўнічай каапэрацыі, забясьпечыць рэдакцыі насьценгазэт працаздольнымі таварышамі.

Вось, у асноўным, усе тыя мерапрыемствы, якія дапамогуць нам выканаць і перавыканаць пляны загатоўкі мяса-дзічыны, загатоўкі пушмехсыравіны. Ні якіх спасыланьняў на „аб'ектыўныя“ прычыны не павінна быць.

Дадзім дзесяткі тон дадатковых харчовых рэсурсаў краіне!

**М. Пасьлядовіч**

---

# ПРАВІЛЬНАЯ РАССТАНОЎКА СІЛ, ЛІКВІДАЦЫЯ АБЯЗЬЛІЧКІ І ЎРАЎНІЛАЎКІ Ў ДЗІЧА- І ПУШМЕХНАРЫХТОЎКАХ—ГАРАНТУЮЦЬ ВЫКАНАНЬНЕ ПЛЯНАЎ

## Сацдагавор паміж Белпушнінай, Белкахотсаюзам і Белкаапсаюзам зрываецца

# Паляўнічыя і лавецкія арцелі павінны ўзяць на буксір арганізацыі Белкахотсаюзу

Рэдакцыя „Паляўнічы Беларусі“ ўзяла пад свой кантроль выкананьне сацдагавору, заключанага паміж Белкахотсаюзам, Белпушнінай і Белкаапсаюзам. Гэты дагавор быў апублікаваны ў № 8 часопісі „Паляўнічы Беларусі“. І гэты дагавор быў накіраван на тое, каб ня толькі выканаць пляны па загатоўцы пушніны 1932 году па гэтых арганізацыях, але і ліквідаваць прарывы за мінулыя кварталы гэтага году.

Што-ж мы бачым на факце. Брыгада часопісі „Паляўнічы Беларусі“, якая праверыла выкананьне дагавору 17 верасьня, выявіла наступнае становішча. Па пункту першаму ні Белпушніна, ні Белкахотсаюз, ні Белкаапсаюз у III квартале ня толькі не ліквідавалі прарыву першых двух кварталаў, а паглыбілі гэты прарыў, выканаўшы пляны за ліпень—жнівень месяц: Белпушніна—за ліпень на 78,7, за жнівень—58,3, Белкахотсаюз—за ліпень—59,1, за жнівень—43,7; Белкаапсаюз—за ліпень—93,2, за жнівень—30,4.

Па пункту другому аб загатоўках крата толькі адна Белпушніна выканала дагавор, сваячасова правёўшы кантрактацыю здатчыкаў пушмехсыравіны поўнасьцю. Апошнія дзьве арганізацыі ў гэтым напрамку нічога не зрабілі. Такім чынам і ў трэцім квартале (ліпень—жнівень) утварыўся прарыў па нарыхтоўцы крата.

Па пункту трэцяму аб палепшаньні якасьці здаваемай пушніні і мехсыравіны ёсьць дасягненьні толькі ў адносіне крата. Але і гэтыя дасягненьні ідуць не за кошт палепшаньня выхаджваньня шкуркі, а выключна за кошт таго, што крот, наогул, палепшыўся ў сваёй якасьці, бо ліпень і жнівень зьяўляюцца такім пэрыядам, калі васеньняя лінька яго канчаецца. У адносіне іншых відаў пушмехсыравіны дагавор застаўся пустым гукам для загатоўчых арганізацый.

Пункт чатыры аб сваячасовай адгрузцы пушніны і мехсыравіны з баз ня выканан. Гэта нашы „бравыя“ загатоўшчыкі тлумачаць тым, што груз вельмі доўга затрымліваецца ў дарозе. А між тым, кантролю за сваячасовай адпраўкай і дастаўкай яго на месца не наладжана.

Пункт пяць, аб сваячасовай падачы зьвестак упаўнаважанаму Наркамзамежгандлю аб ходзе загатовак і кантрактацыі загатоўчымі арганізацыямі выконваецца Белпушнінай і Белкахотсаюзам. Белкаапсаюз і зараз „сьпіць у шапку“.

Пункт шэсьць аб арганізацыі сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод калгасаў, саўгасаў, школ, піянэратрадаў, ячэек ЛКСМ і г. д., арганізацыі лавецкіх арцеляй ня выканан ніводнай арганізацыяй. Не арганізавана да часу праверкі сацдагавору ніводнай арцелі, лаўца.

А выкананьне пункту сёмага, аб ухіленьні ад няправільнага скарыстаньня прамтавараў, якія выдаюцца на стымуляваньне загатовак і суровага захаваньня ўстаноўленага проценту выдачы прамтавару за пушніну ніводная арганізацыя ня дала зьвестак упаўнаважанаму Наркамзамгандлю.

Пункт восем аб адгрузцы прамтавараў не пазьней пяці дзён з таго часу, калі атрымана пушніна ня выконваецца.

Пункт дзевяць аб правядзеньні ня менш двох раз у месяц у раёне абмену інфармацый між загатоўчымі арганізацыямі аб ходзе загатовак таксама ня выконваецца.

Па пункту апошнім, дзесятым аб лепшым наладжаньні інструктажу па нарыхтоўчых арганізацыях былі спробы што-небудзь зрабіць, але гэтыя спробы ўпёрліся ў такі непралазны тупік, што, як відаць, махнулі рукамі—няма кадраў, няма інструктароў. А між тым гэтых інструктароў шукаюць, а не рыхтуюць.

Такім чынам мы бачым, што і сацдагавор застаўся пустым гукам для галоўных трох загатоўчых арганізацый. Калі і ёсьць хоць якія дасягненьні, дык толькі ў тых пунктах дагавору, якія не зьяўляюцца самай мэтай, а служаць толькі для яе дасягненьня. А па самаму галоўнаму пункту аб ліквідацыі прарыву і выкананьні плянаў няма ня толькі дасягненьняў, але прарыў заняў яшчэ большае месца ў нарыхтоўках.

Абломаўшчына, мядзьвежая непаваротлівасьць, з рук вон кепская работа паслужылі зрыву выкананьня сацдагавора. Ды і як можна выканаць дагавор, калі мы з праверкі бачым, што лавецкія арцелі не арганізаваны, што масы моладзі, калгасьнікаў, паляўнічых і ўсяго насельніцтва не арганізоўваліся, што іх увага ня была завострана на гэтым пытаньні, пытаньні выкананьня плянаў сыравіны, якое зараз для нашага сацыялістычнага будаўніцтва мае вагу нараўне з золатам. Так абстаіць справа! Як відаць некаторыя нашы працаўнікі ў галіне загатовак хвараюць мядзьвежай сьпячкай, цікавяцца добрай арганізацыяй працы, як мядзьведзь леташняй зімой.

Вялізарную ролю ў загатоўках павінен адыграць прэміяльны фонд і выдача тавараў за зданую пушніну на вядомы процант яе кошту. З гэтае прычыны быў устаўлен пункт у сацдагавор аб правільным скарыстаньні гэтых фондаў і тавараў і падпісаўшыя дагавор арганізацыі абавязаліся падаваць зьвесткі ўпаўнаважанаму Наркамзамежгандлю аб няправільным выкарыстаньні гэтых тавараў. Ня можа быць, каб тут ня было парушэньня. А між тым у праверцы выявілася, што няма зьвестак. Тут ёсьць проста баязьнь прызнацца ў сваіх памылках, у сваіх злачынствах, а потым імкненьне спасылацца на аб‘ектыўныя прычыны. Але ж аб‘ектыўнымі прычынамі можна апраўдаць мадзьвежую сьпячку ў бярлозе.

Уся савецкая грамадзкасьць, асабліва камсамол, які павінен ужо быў даўно паказаць прыклад у гэтай рабоце і выканаць узятыя на сябе абавязкі ў вядомым пісьме, надрукаваным у нашым друку па арганізацыі загатовак, а таксама паляўнічая маса, актыў калгасаў, саўгасаў павінны ўзяць пад кантроль мас выкананьне сацдагавору, выкананьне пляну па пушмехнарыхтоўках, арганізаваўшы на гэтую справу лавецкія арцелі, аднаасобных лаўцоў і ўсіх тых, хто жадае і павінен заняцца гэтай справай.

**Пушнік.**

# Аб арганізацыі пушна-мехавых загатовак у сэзон 32|33 г.

## Пастанова

## Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю СССР пры СНКБ

*15 верасьня 1932 г.*

Улічваючы вопыт работы 1931, 32 г. па пушнамехавых загатоўках Упаўнав. НКЗГ па БССР адзначае:

а) вытворчая кантрактацыя, як мэтад узьдзейнічаньня на пашырэньне пушмехавой базы і рост загатовак апраўдала сябе і павінна служыць асноўным стрыжнем загатовак у 1932 33 г.

б) У практыцы правядзеньня кантрактацыі з калгасамі ў радзе раёнаў меліся выпадкі падмены гаспадарчых згод празьмерным адміністраваньнем і фармаланым падыходам, а таксама адсутнічаў кантроль над выкананьнем кантрактацыйных дагавароў.

в) Значная частка калгасаў ня была ўцягнута ў пушна-мехавыя загатоўкі, а адсюль недаацэньвалася агульна-дзяржаўнае значэньне пушнога промыслу і пушмехавых загатовак, утвараліся ўсякія перашкоды калгасьніку-паляўнічаму ў выхадзе на промысел, у выніку чаго мы маем выкананьне пляну па калгаснай сыстэме ўсяго на 2,5 проц.

г) Нізавы загатоўчы апарат працаваў без належнага інструктажу і кантролю, ня было ўтворана ўстойлівага прававога становішча для зборачнага апарату.

д) У адпаведнасьці з паказаным, у мэтах далейшага павялічэньня пушна-мехавых загатовак Упаўн. Наркамзамежгандлю пастанаўляе:

### 1. Кантрактацыя пушна-мехавой сыравіны

1. Прызнаць, што асноўным мэтадам работы на загатоўках пушмехсыравіны ў сучасную загатоўчую кампанію павінна быць вытворчая кантрактацыя. Дагавары павінны быць ператвораны ў сапраўдныя гаспадарчыя згоды, павінны строга ўлічваць інтарэсы абодвых бакоў з правядзеньнем шырокай масавай работы, мабілізуючы грамадзкія сілы ў мэтах правільнай арганізацыі вытворчасьці сыравіны, павялічваючы яе таварнасьць і павышаючы якасьць прадукцыі.

2. Прапанаваць асноўным загатоўчым арганізацыям тэрмінова прыступіць да заключэньня гаспадарчых дагавароў на пушнамехавую сыравіну на тэрмін, не перавышаючы сэзону загатовак 1932-33 г. (кастрычнік—красавік), адначасова праводзячы шырокую масавую кампанію па растлумачэньні ўзаемнай карысьці гэтых дагавароў, устанавіўшы канчатковы тэрмін заключэньня дагавароў да 15 кастрычніка 1932 г. Дагавары, заключаныя да гэтай пастановы, якія ахопліваюць IV-ы квартал 1932 г., падлягаюць перагляду.

3. Абавязаць загатоўчыя арганізацыі сыстэматычна праводзіць праверку выкананьня гаспадарчых дагавароў абодвых бакоў, а правядзеньне суцэльнай праверкі, устанавіць кожнага 10 наступнага месяцу.

4. Авансавыя выдачы на заключэньне кантрактацыйных дагавароў устанаўліваюцца па калгасным сэктары ў разьмеры 30 проц., у аднаасобным—у разьмеры 20 проц. з сумы дагавору. Авансы выдаюцца грашыма, таварамі і ахотбоеприладамі ў наступных проц. адносінах.

| Па пушніне | таварамі | ахот-боепр. | грашыма |
|---|---|---|---|
| | у проц. | | |
| Калгасу (ахот. брыгадзе, або арцелі) . . . . | 30 | 30 | 40 |
| Калгасьнікам (па неабагуленай прадукцыі) . | 25 | 30 | 45 |
| Аднаасобнікам . . . . | 20 | 30 | 50 |

Увага: Па мехсыравіне выдача аванса таварамі ўстанаўліваецца ў тым-жа разьмеры, як па пушніне, а астатняя частка сумы выдаецца грашыма. Аванс промтаварамі і грашыма выдаваць поўнасьцю пры заключэньні дагавору, а ахотбоеприлады выд ваць у два тэрміны: 50 проц. пры заключэньні дагавору і 50 проц. у пачатку 1 кв. 1932 г.

5. У мэтах стымуляваньня правядзеньня здачы пушмехавай сыравіны па кантрактацыйных дагаварох загатоўчым арганізацыям вытвараць дадатковую выдачу промтаварамі ў разьмеры 10 проц. кaштоўнасьці пушнамехавай сыравіны, здадзенай звыш дагавору.

6. Устанаўленьне арыентыровачнай нормы здабычы пушмехсыравіны на аднаго паляўнічага на сэзон 1932-33 г. у сумарных адносінах прадаставіць права РЭН сумесна з загатоўчымі арганізацыямі.

7. Кулацка-заможныя гаспадаркі не кантрактуюцца. Апошнія павінны здаваць прадукцыю на падставе цьвёрдых абавязацельстваў. Парадак дачы, цьвёрдых заданьняў асобна даслаць.

### II. Работа ў калгасах

1. Загатоўчым арганізацыям правесьці шырокую масавую работу па правільнай арганізацыі паляўнічага промыслу і дробнай жывёлагадоўлі (трусы і іншыя) у калгаснай сыстэме; як цэнтральную задачу ў справе аднаўленьня вытворчасьці і разьвіцьця загатовак пушмехавой прадукцыі і забясьпячэньня выкананьня і перавыкананьня плянаў 1932-33 г.

2. Заключэньне кантрактацыйных дагавораў і вядзеньне загатоўкі з кожным паасобным калгасам можа вытварацца адной з загатоўчых арганізацый, дапушчанай да загатоўкі пушмехсыравіны.

3. Прымацаваньне калгасу да загатоўчай арганізацыі робіцца РВК сумесна з раённымі загатарганізацыямі, згодна ўдзельнай вагі ў загатоўках

пушмехсыравіны ў IV-м квартале 1932 г. (паказана ніжэй у разьдзеле 5 у п. № 2) і райаніраваньне павінна быць скончана не пазьней 1-га кастрычніка 1932 г.

4. Абавязаць асноўныя загатоўчыя арганізацыі заключыць агульны лёкальны дагавор у дэкадны тэрмін з Белкалгасцэнтрам, прадугледжваючы правядзеньне ўсіх неабходных мерапрыемстваў з боку калгаснай сыстэмы па садзейнічаньні арганізацыі і пушнамехавай справы ў калгасах, а таксама пастаяннага інструктажу з боку загатарганізацый на падставе генэральнай згоды з Саюзкалгасцэнтрам і загатарганізацыямі.

5. Надаючы асаблівае значэньне абслугоўваньню калгасных базараў, загатоўчым арганізацыям правесьці самую шырокую работу па загатоўцы пушмехсыравіны на рынку, шляхам адчыненьня ларкоў, палатак, поўнага снабжэньня промтаварамі і ахотбоепрыладамі, зброяй лову і правядзеньня рашучай барацьбы з спэкулянтам-скупшчыкам.

6. Загатоўку і кантрактацыю па саўгасах пушнамехавой прадукцыі вядзе выключна загатарганізацыя Белпушніны.

## III. Па індывідуальным сэктару

1. У аднаасобным сэктары загатоўчыя арганізацыі ажыцьцьўляюць загатоўку пушмехсыравіны праз стацыянарныя загатпункты, каапэрацыйную нізоўку, разьяздных зборшчыкаў, а таксама шляхам выступленьня на базарах.

2. Надаць асаблівае значэньне інстытуту зборшчыкаў пушмехсыравіны ў справе выкананьня пляну, для чаго абавязаць загатоўчыя арганізацыі ўкамплектаваць свой апарат з лепшых калгасьнікаў і актывістых, ачышчаючы ад сацыяльна-варожага элемэнту. Сьпісы зборшчыкаў падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў сельскім савеце. Работа зборшчыкаў павінна быць ахоплена асноўнай масай пушмехсыравіны, як калгасным, гэтак і аднаасобным сэктарам, якая не ахоплена заключэньнем гаспадарчых дагавароў на кантрактацыю. Праз зборшчыкаў загатарганізацыі маюць права вытвараць выкананьне дагавароў.

Прапанаваць Белпушніне, Белкахотсаюзу і Белкаапсаюзу ў дэкадны тэрмін прадставіць Упанав. НКЗГ парадак аплаты труда зборшчыкаў, паклаўшы ў аснову ўстаноўлёны мінімальны аклад і прагрэсыўную аплату з сум загатовак.

## IV. Разьмеркаваньне промтавараў і ахотбоепрыладаў

1. Упаўнаважан. НКЗГ БССР сумесна з загатарганізацыямі праз Белпушніну, вытвараючы разьмеркаваньне промтаварных фондаў, якія прызначаны для стымуляваньня пушмехзагатовак у адпаведнасьці з плянам загатовак устаноўленых для кожнай загатарганізацыі, вытвараючы неабходнае манэўраваньне ў залежнасьці ад фактычнага ходу загатовак. Выдачу промфондаў вытварае Балсаюзпушніна цэнтральным загатавіцельным арганізацыям у цэнтры, а ў сваю чаргу цэнтральныя загатоўчыя арганізацыі тэрмінова накіроўваюць промфонд сваёй нізоўцы.

2. Выдача промтавараў здатчыкам пушмехсыравіны ажыцьцяўляецца непасрэдна кожнай загатоўчай арганізацыі самастойна па наступным нормам:

| | промтавар. і ахотбоепр. | гр. |
|---|---|---|
| а) Пры кантрактацыі з калгасамі | 60 проц. | 40 проц. |
| б) „ „ з калгасамі (па неабагуленай прадукцыі) . . . . | „ 55 „ | „ 45 „ |
| в) Пры кантрактацыі (з аднаасобным сэктарам) . . | „ 45 „ | „ 55 „ |
| г) Па замежамі кантрактацыі (пакупка з рынку). . . | „ 40 „ | „ 60 „ |

3. Прапанаваць Белкахотсаюзу і Белпушніне ў дэкадны тэрмін прадставіць Упаўнав. НКЗГ БССР парадак і нормы выдачы ахотбоепрыладаў паляўнічым, здаючым пушмехсыравіну.

4. Катэгарычна забараніць загатоўчым арганізацыям перакідваньне і выдачу на іншыя мэты промфонды, якія адпушчаны для стымуляваньня здатчыкаў пушмехсыравіны.

## V. Плян загатовак і кантынгент загатавіцеляй

1. Зацьвердзіць плян загатовак на IV кв. 1932 г. па БССР у суме:

| | |
|---|---|
| Па пушніне . . . . | 358.500 руб. |
| Па мехсыр. . . . . | 213.500 „ |
| Усяго . | 572.000 руб. |

па існуючым цэнам на IV кв. 1932 г.

2. Зацьвердзіць у якасьці асноўных загатавіцеляй пушмехсыравіны на сэзон 1932, 33 г. Белпушніну, Белкахотсаюз і Белкаапсаюз з наступнай удзельнай вагай у IV-м 1932 г.:

| | Пушніна | Мехсыравіна |
|---|---|---|
| | у проц. | |
| Белпушніна . . . . | 40 | 50 |
| Белкахотсаюз. . . . | 36,5 | 20 |
| Белкаапсаюз . . . . | 23,5 | 30 |

3. Зьняцьце з загатовак пушмехсыравіны якоганебудзь загатавіцеля ня мае ніякага права вытвараць раённая арганізацыя без ведама Ўпанав. НКЗГ БССР



Прыём пушніны на Лепельскім загатпункце

## VI. Рэгуляваньне загатрынку

1. Рэгуляваньне і пляніраваньне пушмехавога рынку заставіць за Ўпаўн. НКЗГ БССР.

2. На падставе пастановы ЦВК СССР і Экспартнай нарады пры СНК БССР ад 15/VIII—32 г. аслабаніць ад прац гужпавіннасьці лепшых паляўнічых з складу вытворчых ахотбрыгад, працуючых па цьвёрдых дагаварох з загатарганізацыямі.

3. Прапанаваць загатоўчым арганізацыям разгарнуць шырокую работу з прыцягненьнем партыйнай, камсамольскай і савецкай грамадзкасьці за сваячасовы выхад паляўнічых на ахотпромысел і весьці барацьбу са стратамі, за якасны выхад прадукцыі, прымяняючы мэтад сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Устанавіць з 1-га кастрычніка 1932 г. наступны парадак прадстаўленьня справаздачных зьвестак аб ходзе загатовак: нізавыя загатоўчыя арганізацыі прадстаўляюць сваім рэспубліканскім цэнтрам. Цэнтральныя загатоўчыя арганізацыі, як Белкахотсаюз і Белкаапсаюз прадстаўляюць па ўстаноўленай адпаведнай інструкцыі і тэрміны Бел. К-ры. Саюзпушніны і копію сваім саюзным цэнтрам; а ў сваю чаргу Белпушніна прадстаўляе Саюзпушніне Масква і копію Упаўн. НКЗГ СССР пры СНК БССР.

Упаўн. НКЗГ па БССР **Рэдэр**.

### Загатоўчыя цэны

на зімовую пушніну сэзону 1932/33 г. **Цэны ўстаноўлены на першы гатунак:** уводзяцца з верасьня 1932 г.

| № п.п. | Назва відаў зьвера | Цана Руб. | Цана Кап. | № п.п. | Назва відаў зьвера | Цана Руб. | Цана Кап. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Пушніна** | | | 13 | Рысь | 50 | — |
| 1 | Барсук | 4 | 50 | 14 | Тхор горны | 7 | — |
| 2 | Белка | — | 80 | | | | |
| 3 | Воўк лясны | 45 | — | | **Мехсыравіна** | | — |
| 4 | „ стэпны | 30 | — | | | | |
| 5 | Гарнастай | 4 | — | 1 | Кролік белы велік. | { 5 | — |
| 6 | Заяц бяляк | — | 50 | 2 | „ шыншыл. | | — |
| 7 | „ русак | — | 55 | 3 | „ венскі галуб | { 4 | 50 |
| 8 | Куніца мяккая | 45 | — | 4 | „ шампань | | 50 |
| 9 | „ жорсткая | 35 | — | 5 | „ беспародны | 3 | 50 |
| 10 | Ласка | — | 70 | 6 | „ пухавы | 2 | |
| 11 | Лісіца | 30 | — | 7 | Сабака | 3 | |
| 12 | Норка | 20 | — | 8 | Кошка хатняя | 1 | |

Упаўнаважаны НКЗГ па БССР **Рэдэр**
Пушная група **Шмуклер**



Ударнікі Менскага гарадзкога т-ва паляўнічых, барацьбіты за пушніну.

Больш увагі трусагадоўлі

# Чатыры блакітных плюс энтузіязм

**Так зачалася.** Ня было калі тав. Кіртану, намесьніку старшыні Магілеўскага таварыства паляўнічых, якому было даручана праўленьнем арганізаваць трусаводную гаспадарку, заняцца гэтай справай. Шмат і без таго работы: там трэба паехаць у Маскву за таварамі для крам т-ва, забясьпечыць паляўнічых боепрыладамі, скласьці балянс т-ва, падлічыць прыбыткі ды ці мала іншай работы? Ух! колькі яе ёсьць. Тут трэба выехаць у аддзяленьне, у ячэйку, арганізаваць заказьнік на зайца, на цецярука і глушца, паклапаціцца, каб было чаго пастраляць паляўнічым.

Ї езьдзіў т. Кіртан ня раз у Маскву, ня раз там начаваў дзе-небудзь у скверы, хадзіў пехатой па раёне, словам, клапаціўся, каб таварыства „не ўдарыла тварам у гразь", каб было прыкладнае. Шмат работы было! А тут настала вясна, яшчэ даручылі гэтую самую трусагадоўлю! Няўжо ў мяне дзесяць рук замест дзьвюх? Няўжо на гэтых руках ды па дзесяць пальцаў, ды кожны палец замяняе ў рабоце звычайную руку? Не разарвуся ж я?

Ї сапраўды, т. Кіртану і так хапала работы! Ї ён, пакуль што, ня браўся за даручаную яму справу па трусагадоўлі.

Але быў неяк сход паляўнічых Магілеўскага т-ва. На гэты сход прыехаў старшыня Белкахотсаюзу,— самы старэйшы ён зайцавы начальнік. Ну, вядома, як начальнік займаў ён і ганаровае месца на гэтым сходзе, за сталом у самым прэзыдыуме.

Вось і пачаўся сход! Загаварылі аб паляваньні, аб тым ці шмат будзе дзічыны, колькі хто зайцаў набіў і ці ўсе шкуркі здаў у т-ва, як выканана заданьне па загатоўцы пушніны, і на якую адлегласьць б'е чыя стрэльба. Пракоп Доўгаязык, дык той так разышоўся пры гэтым, апісваючы сьціпнасьць бою сваёй стрэльбы, так размахваў рукамі, паказваючы як ён робіць „ускідку" да пляча пры страляньні, што аднаму аж заехаў незнарок далоньню ў твар, разьбіў да крыві нос, а другому чуць пальцам ня выкалаў вока. Ї ўсё ж такі яго больш паляўнічыя слухалі, чым дакладчыка, які глухім голасам дакладваў аб тым, што дзічыны на Магілеўшчыне вельмі мала.

Але, вось, падняўся з-за стала старшыня праўленьня Белкахотсаюзу, які прыслухоўваўся ўвесь час да гаворкі на сходзе, асабліва да апавяданьня Пракопа Доўгаязыка, і сказаў:

— Давайце, хлопцы, трусоў гадаваць.

Сход замоўк. Пачуліся галасы:

— Як так—трусоў гадаваць?! Хіба мы яшчэ не гадуем? А таварыш Кіртан даўно ж вылучаны для гэтай справы.

Тады падняўся тав. Кіртан і сказаў:

— Я заняты другой справай. Няму часу для трусоў... У мяне і так работы.

Замоўк зноў сход. Кожны з паляўнічых думаў сваю думку. Хлапец ён добры, а працаўнік яшчэ лепшы і калі гаворыць, што заняты другой работай, дык мусіць заняты... Мусіць праўду кажа?.

Падумалі, падумалі і кожны пры сабе рашыў. Ї тады ўсе разам сказалі:

— Значыцца... аслабаніць тав. Кіртана ад усякай ахотніцкай іншай работы. Даць яму нагрузку— справу трусоў. Хай хлапец папрацуе трохі; справіцца ён з гэтай карыснай справай. Трусоў нагадуе, больш дзічы будзе ў ахотсаюзе...

Сход кончыўся. Старшыня Белкахотсаюзу паехаў дамоў. Тав. Кіртан ішоў па прыцемкаватых завулках на кватэру і абдумваў плян, як пачаць справу трусагадоўлі. Ен ужо падлічваў колькі дасьць прыплоду кожная трусаматка за год? Першы год сем, лічучы, што з прыплоду сямі палова будзе самак і праз тры месяцы прынясе зноў па сямі штук, маладняку, значыцца тры з паловай на сем... У гэты час ён спатыкнуўся і згубіў думку. Зноў пачаў прыпамінаць і дайшоў: тры з паловай на сем... Як



Тав. Простак, паляўнічы Менгортаварыства. Лепшы барацьбіт з драпежнікамі.

тры з паловай? Хіба можа быць тры з паловай самкі? Цьфу, ты чорт... Хай заўтра падлічу.

Прышоў т. Кіртан і, невячэраўшы лёг спаць...

**Такой нарадзілася.** Назаўтра на сьвежую галаву тав. Кіртан падлічыў усё ж-такі, колькі за год прынясе кожная самка трусоў. Падлічыў і ахнуў ад зьдзіўленьня:—„Каштоўная штука! Адна самка да трохсот прыносіць у год прыплоду! Трэба ўзяцца за гэту справу“.

І ўзяўся. Пачалася зноў бегатня, разьезды. Трэба дошак на клеткі для трусоў. Дзе ўзяць дошкі? У адну ўстанову, у другую—дошкі ёсьць! Трэба цьвікі. Дзе ўзяць цьвікоў? Цьвікі на капітальнае будаўніцтва пашлі. Зноў бегатня па савецкіх установах. І зноў—ёсьць цьвікі! А яшчэ сетка трэба. Бегаў, бегаў Кіртан, — няма сеткі! Зьвярнуўся да Белкахотсаюза:—„Давай, брат, Белкахотсаюзік мілы, сеткі на клеткі для трусоў!“ Белкахотсаюз зрабіў кіслы твар, замаўчаў. Тады Кіртан кінуўся ў другі бок і ўрэшце, ёсьць і сетка!

Пачалі будаваць клеткі.

Вядома іх было наробленa шмат. Але дзе-ж іх ставіць? Яшчэ месца няма для трусятніка. І зноў пачаў бегаць Кіртан па савецкіх установах. Там крыкне: „Дайце вучастак зямлі, я вас закідаю трусамі“! Там скажа: „Каб толькі вучастак зямлі, отбы нагадаваў трусоў“. І нашліся людзі, якія далі дзевятнаццаць гэктараў добрай зямлі каля самага



Тав. Зьмітровіч. Паляўнічы Менгартаварыства. Лепшы здатчык пушніны і барацьбіт з драпежнікамі

гор. Магілева, на высокім сухім месцы, на курганох, у ног якіх гоніць свае мутнаватыя воды дзядуля Дняпро.

Гэта было ў красавіку месяцы 1932 г. Ну, зараз толькі трусоў здабыць, запахаць вучастак, знайсьці трусавода і ўсё—гаспадарка гатова,—думаў Кіртан. Завошта тут раней прыняцца: вучастак засеяць, забясьпечыць будучых трусоў кармамі на зіму ці трусоў раней купіць? Рашыў раней вучастак засеяць: будзе корм, трусы будуць жывы, а ня будзе, што тады з трусамі рабіць.

Кінуўся сеяць. А ў гаспадарцы „ні каня, ні вала“. Як-жа тут быць? Сам плуг не пацягнеш і грошы няма ўсё адразу купіць. Прышоў тав. Кіртан на свой вучастак, абвёў яго мутным поглядам і задумаўся; апусьціў вочы ў воды дзеда Дняпра, які паласкаўся ў яго ног. Прасядзеў ён так з гадзіну, але раптам усхапіўся, падняўся і пашоў у горад. Яго твар у гэты момант, сьвяціўся радасьцю.

Прышоўшы у горад тав. Кіртан, пачаў клікаць на агульны сход паляўнічых. Праз колькі часу паляўнічыя зьявіліся. І тады пачаў прамову да іх таварыш Кіртан.

— Вы мяне вылучылі гадаваць трусоў. Я за гэту справу ўзяўся, бо добрая справа.—Тут ён паведаміў ім, што зрабіў і закончыў:—У гаспадарцы ні каня, ні вала. Зямлю абсеяць некім і нечым. Хто параіць, як быць?

Усе маўчалі. Адзін толькі Пракоп Даўгаязык усё канчаў апавядаць аб тым, як добра б'е яго стрэльба. Кіртан паглядзеў на іх і зноў загаманіў:

— Я бачу, што вы хочаце нешта прыдумаць, і ня можаце гэтага зрабіць. У мяне ёсьць добрая думка. Пакуль у нас у таварыстве няма грошай купіць усё тое, што неабходна для таго, аб чым я толькі што сказаў, давайце, хлопцы, утворым суботнік, зьявімся на поле з сваімі конямі, плугамі і насеньнем, засеем сваю зямлю, а потым ужо нажывем усё, што нам трэба!..

Усе паляўнічыя пачулі словы тав. Кіртана, нават і Пракоп на гэты момант змоўк аб сваёй стрэльбе і сказаў:

— А добрую думку ён унёс. Што нам каштуе папрацаваць у выхадны дзень некалькі гадзін. „З міру па нітцы, голаму рубаха“! А нас усяго шэсьцьсот паляўнічых.

— Праўда, праўда!—загаварылі другія.—Давайце, хлопцы, суботнікам нашу зямлю та о... узьвернем...

Так пастанавілі паляўнічыя і разышліся. А праз дзень па вуліцах гораду Магілева ішлі дзіўныя людзі. Адзін вёў каня, другі нёс матыгу, трэці цягнуў барану ці плуг. Людзей гэтых было шмат. Уперадзе ішоў тав. Кіртан, весела паглядаючы арлінымі вачыма па бакох. Тут-жа з боку бегла некалькі паляўнічых сабак.

— Хай прабегаецца!—гаварыў хто-небудзь, паказваючы на свайго выжлу.—Засядзеўся!

Некаторыя паляўнічыя, як на паляваньне, узялі і стрэльбы.

— Каршуна дзе небудзь падаб'ю. А то яшчэ павадзіцца цягаць трусянят з гаспадаркі.

Праз колькі часу зачырванеліся, а потым зазеляненіся курганы вясеньнімі ўсходамі. Зьмянілася мясцовасьць. Толькі дзед Дняпро злосна пеніўся сваімі хвалямі ў іх ног...

Ну, усё галоўнае зроблена, думаў тав. Кіртан. Час настаў і жывёліну заводзіць. Клеткі гатовы, кармы будуць, чаго яшчэ чакаць?! Зьвярнуўся таварыш Кіртан да таго-ж Белкахотсаюзу:

— Белкахотсаюзік мой міленькі! Дай мне трусоў штук дваццаць матак і і штук дзесяць самцоў на завод!

— Няма ў нас трусоў для гэтай мэты!—прабурчэў Белкахотсаюз і, зрабіўшы знаёмую нам кіслую міну, пагрузіў вочы ў паперы.

— Як няма!—адказаў Кіртан.—У трусятніку Менскага гарадзкога т-ва, куды ўляпана 12.000 руб, хіба няма? У Воршы, у Пухавічах ды ці мала дзе куды таксама пакладзены сродкі, хіба няма?

Адказу не пасьледвала. Задумаўся зноў тав. Кіртан. Што рабіць? Няма дзе трусоў купіць. Думаў, думаў і рашыў каля сябе навокал пашукаць. Кінуўся ў адно месца, у другое. Урэшце купіў за дваццаць пяць рублёў у вясковага трусавода аматара чатыры трусы. Пасадзіў гэтых зьвяркоў у карзіну і прынёс у горад. Потым перанёс туды, дзе расла з зямлі трусаводная гаспадарка, зробленая яго рукамі і пасадзіў у клеткі. Гэта было, ня ведаю!—у пачатку ці ў канцы красавіка гэтага году.

Раз ёсьць чатыры трусы, трэба, каб быў і трусавод. Пачаў шукаць яго і знайшоў. Прывёў у гаспадарку, паказаў трусоў і ўсё іншае. Потым зьвярнуўся да яго:

— Варвара Осіпаўна! Я вам давяраю ўсё. Рабіце так, каб лепш было, каб з чатырох у нас разьвялося сотні трусоў. Нам будзе лепш. Чым больш, тым лепш! Краіна, рабочыя чакаюць нашых посьпехаў у гэтай справе!

І Варвара Осіпаўна зразумела словы тав. Кіртана, прыняла іх да свайго сэрца. З таго часу яна ня выходзіла з гаспадаркі. Адны яе клопаты: „Ах, а як мае пітомцы? Ці сыты яны, ці здаровы? Можа ў каторага вочкі гноем заплылі?—скажа Варвара Осіпаўна, абыйдзе ўсе клеткі, паглядзіць, як сваіх родных дзяцей накорміць, напоіць, абчысьціць гэтых зьвяркоў.

Добра ім было. Яны былі вясёлыя і здаровыя. А ў здаровым целе, як гэта кажуць, здаровы дух. Прырода наклала абавязкі і на трусоў. Сталі яны пладзіцца не па днях, а па гадзінах...

**У такую вырасла**. Зараз тав. Кіртан таксама ходзіць вясёлым і здаровым. Арлінымі сваімі вачмі з-пад густых чорных брывей ён кідае погляд на лева, на права. Усюды ўсё бачыць. Сваім доўгім, трошкі прыгнутым носам, усё чуе. Адна толькі думка клапоціць яго: дзе ўзяць пяць тысяч рублёў? Вось ужо восень, абсыпаецца пажаўцелы ліст і шуміць пад нагамі, а пабудовы яшчэ ня скончаны. На вучастку зямлі трусятніка вырасьлі дзьве вялізарныя пуні, набітыя кормам для трусоў. Няма яшчэ хаты і сталоўкі для рабочых. А зіма на насу. А рабочых гэтых ужо пяць чалавек у гаспадарцы. Ды навеса для трусоў няма, а іх ужо разьвялося аж тысяча чатырыста штук з лішкам.

Былі і яшчэ клопаты, калі ў гаспадарку ўвалілася эпідэмія. Пачалі дохнуць маленькія трусікі. Але Варвара Осіпаўна ночы ня спала, ня ела, ня піла, а выратавала сваіх пітомцаў. Навяла яшчэ лепшыя чыстату, дэзынфэкцыю і парадак у гаспадарцы. Эпідэмія струсіла! Падціснула хвост між ног і хутчэй уцякла з трусятніка. Толькі сорак штук маладых, яшчэ голенькіх трусянят унесла з сабой эпідэмія.

Трусам і зараз жывецца добра пад уладай таварыша Кіртана і Варвары Осіпаўны. Яны кожны дзень п'юць малачко ад уласных каровак гаспадаркі, якіх там ёсьць дзьве, а можа ўжо і тры. Жуюць авёс, сена і караньплоды, скошаныя, абмалочаныя і зьвезеныя таксама ўласнымі сіламі трусятніка. Бо для гэтай мэты ў гаспадарцы ёсьць два рабочых, коні і ўвесь інвэнтар.

Што датычыць клопатаў тав. Кіртана аб пяці тысячах рублёў, дык і гэта мінецца, як мінаецца ўсё пад месяцам, бо хутка ён прадасьць на мяса рабочым некалькі сот трусоў, а сама гаспадарка ўжо каштуе дваццаць пяць тысяч рублёў. Усё!..

**Мік. Цэлеш.**



Тав. Савонаў. Лепшы паляўнічы Менгартаварыства. Здаў у 1932 г. 20 пуд. мяса дзічы. Прэміраван стрэльбай.

# За стопроцантнае выкананьне пляну пушмехзагатовак

(Па Касьцюковіцкім раёне)

У т-ве налічваецца звыш 600 паляўнічых, якія разьбіты на нізавыя ячэйкі. Ячэйкі арганізацыйна аформлены. Сувязь з імі раённае таварыства трымае. Ёсьць паляўнічая крама, якая параўнаўча добра абсталявана і па разьмеры адпавядае свайму прызначэньню. Але за тое адсутнічае канцэлярыя і праўленьне фактычна ня мае сталага месца для правядзеньня работы.

З сталых працаўнікоў ёсьць старшыня, загадчык крамаю, а з 1-га жніўня нават і рахункавод. У гэтым напрамку, такім чынам, таварыства зрабіла значны крок наперад. Бо як нам вядома, раней яно мела ў якасьці сталага працаўніка—толькі загадчыка крамаю. Старшыня-ж і рахункавод працавалі па т. зв. сумяшчальнасьці, якая наогул кажучы, для шмат якіх раёнаў зьяўлялася аднэй з галоўнейшых прычын ня выкананьня плянаў загатовак усіх відаў паляўнічай прадукцыі і абумоўлівала дрэнную пастаноўку работы райтаварыстваў ва ўсіх галінах. Пра гэта, між іншым, мы шмат пісалі на старонках часопісі, пра гэта шмат гаварылася на зьездах і нарадах пры Белкахотсаюзе. І таму зараз трэба адзначыць, як станоўчы факт, тое, што большасьць раёнаў сталі нарэшце на шлях зьнішчэньня ў паляўнічай сыстэме прынцыпу сумяшчальнасьці.

Аднак, зьвернемся да сутнасьці справы.

Як-жа спраўляецца таварыства з задачамі, што стаяць зараз перад ім у напрамку выкананьня плянаў загатовак III кварталаў, а таксама і ў напрамку арганізацыі паляўнічай гаспадаркі ў шырокім сэнсе гэтага разуменьня?

У дачыненьні да выкананьня плянавага заданьня па пушмехсыравіне падамо некалькі лічбаў. За III квартал т-ва павінна загатовіць паляўнічай прадукцыі на 2120 руб. (паводле пляну). За першы-ж месяц гэтага кварталу фактычна загатоўлена 200 кротавых скурак, 4—трусіных, 5 сабачых—7.

Усяго на суму 218 р. 26 к.

Такім чынам, такая нязначная сума выкананьня пляну за першы месяц III кварталу, пры недавыкананьні на 2000 руб. пляну за II квартал (заданьне ў 2760 руб. выканана толькі на 644 р. 20 к.) зьяўляецца зрывам загатовак у бягучым квартале. А таму зусім праўным робіцца пытаньне—у чым прычыны такога становішча?

Адказваючы на такое пытаньне трэба агаварыцца, што магчыма сума выкананьня III кварталу за 1-шы месяц будзе крыху і большая. Бо справа ў тым, што з прычыны зусім дрэннай пастаноўкі работы ў канцэлярыі паданыя лічбы прышлося сабраць з пасобных ласкутоў паперы і з не падсумаваных дэкадных блянкаў крамніка. Гэта мы адзначаем таму, што дрэнная пастаноўка вучота і справаздачнасьці, бясспрэчна, уплывае адмоўна і на ход выкананьня плянаў, бо пазбаўляе магчымасьці сачыць за тым, як працуюць у гэтым напрамку нізавыя ячэйкі. Гэта тым больш верагодна, што ў справах канцэлярыі нам не ўдалося адшукаць разьвёрсткі плянавага заданьня на квартал паміж нізавымі ячэйкамі. Адзіны-ж працаўнік у канцэлярыі сакратар і рахункавод т. Бабкоў адказаў, што ён новы працаўнік і са справамі ў поўным аб'ёме яшчэ не азнаёміўся.

Вось з гэтым непасрэдна зьвязана і галоўная прычына слабых тэмпаў у выкананьні плянаў загатовак, якая заключаецца ў слаба разгорнутай контрактацыі і ў ня менш слабай праверцы выкананьня заключаных дагавароў. І яшчэ: аднэй з прычын, што затрымоўвае загатоўку, зьяўляецца і не заўсёды падыходзячы асортымэнт тавараў ды высокая расцэнка промтавара. Сюды-ж належыць і недахоп пораху, шроту і іншых баявых паляўнічых прылад (краталовак, напрыклад).

Нарэшце, трэба адзначыць і слаба разгорнутую растлумачальную выхаваўчую работу вакол папулярызацыі значэньня загатовак. Пра гэта ў прыватнасьці сьведчыць і адсутнасьць насьценгазэты нават пры райтаварыстве, ня кажучы ўжо пра ячэйкі.

Такім чынам, пералік асноўных і галоўных прычын недавыкананьня плянаў II кварталу і заданьня на III квартал вызначаюць і тыя моманты ў рабоце т-ва, на якія ў далейшым неабходна зьвярнуць увагу, неабходна зьнішчыць іх, як тармозячыя справу загатоўкі паляўнічай прадукцыі.

Наступнае, што трэба разглядаць як недахоп у рабоце таварыства, гэта адсутнасьць вывучэньня з боку праўленьня колькаснага становішча паляўнічай фауны—раёну і ўмоў, у якіх існуе яна. З гэтым зьвязана ў сваю чаргу мэханічнае разьмеркаваньне паміж ячэйкамі загатоўчых плянаў у маштабе раёну, якое праводзіцца выходзячы толькі з уліку колькаснага складу кожнай ячэйкі.

У заключэньне трэба яшчэ адзначыць адсутнасьць усякай работы у напрамку контрактацыі трусіных тушак і скурак. Таварыства мае заданьне законтрактаваць тушак—100 і скурак 200. Але як гэта выконваецца і ці выконваецца наогул—сказаць цяжка, бо ў канцылярыі праўленьня вестак на гэты конт няма і ніхто з працаўнікоў пра гэта ня ведае.

Для таго, каб забясьпечыць 100 проц. выкананьне плянаў загатовак, таварыству трэба ў першую чаргу шырока разгарнуць контрактацыю і растлумачальную работу сярод паляўнічых мас. Трэба наладзіць сталы вучот паступаючай прадукцыі і забясьпечыць сыстэматычную праверку выкананьня контрактацыйных дагавароў. Трэба палепшыць работу канцылярыі, забясьпечыўшы яе адпаведнымі працаўнікамі, і падшукаць дл яе адпаведнае памяшканьне. Галоўнае-ж трэба безадкладна зьнішчыць самацёк у правядзеньні загатавіцельнай работы.

С-ка.

# „А бабры тут ня прычым!“

Гутарка ідзе пра Клімавіцкае раённае таварыства паляўнічых.

На старонках „Паляўнічага Беларусі“ некалькі разоў адзначалася ўжо, што работа гэтага таварыства, у галіне ўпарадкаваньня і належнай аховы паляўнічых заказьнікаў пастаўлена як ня трэба горш. А між тым, у даны момант, калі паляўнічая гаспадарка стаіць перад пільнай неабходнасьцю карэннай рэканструкцыі, што магчыма зрабіць праз арганізацыю спэцыяльных паляўнічых заказьнікаў і на аснове прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў да пэўных паляўнічых арганізацый,—у гэты момант закрануты вучастак работы набывае выключнае значэньне. Гэта элемэнтарная ісьціна, якую на сёнешні дзень ня зручна проста і даводзіць.

Аднак гэтага не разумеюць працаўнікі Клімавіцкага раённага т-ва. Бо, паўтараем, ахова і ўпарадкаваньне заказьнікаў—фактычна па-за ўвагаю іх.

Справа вось у чым. Як вядома, там існуе два заказьнікі—адзін па разьвядзеньню выдры, другі на рэчцы Лабжанцы па разьвядзеньні баброў. Але-ж да гэтага часу заказьнікі не аслупаваны, межы іх дасканала не акрэсьлены, вартаўнікоў для аховы іх няма.

Таму і наглядаецца там драпежніцкае зьнішчэньне **выдры і баброў** усялякімі спосабамі і сродкамі. Пры чым, факт, які мы пададзім ніжэй паказвае зьнішчэньне менавіта баброў у той час, як апошнія становяць сабою ў нас вельмі рэдкі і надта каштоўны від дзікай жывёлы, у зьвязку з чым і ахова яго павінна быць пастаўлена асабліва добра.

Але-ж у дачыненьні да Клімавіцкага таварыства сказаць гэтага нельга. Бо факты пярэчаць гэтаму. Падаем адзін з іх.

Недалёка ад мястэчка Родня, Клімавіцкага раёну, старшыня Раднянскай ячэйкі паляўнічых тав. **Хомчанка** натрапіў аднойчы на такую зьяву. Ідучы з паляваньня, ён заўважыў некалькі хлапчукоў, якія гурбою несьлі на кійкох забітага імі маладога бабра. Калі тав. Хомчанка спытаўся хлапчукоў, дзе яны ўзялі бабра, тыя адказалі:

— **Забілі!**

— **На вошта зрабілі гэта?**

— **Думалі, што воўк.**

А пасьля Хомчанка даведаўся ад хлопчыкаў наступнае:

Яны пасьвілі кароў каля рэчкі Лабжанка і на беразе заўважылі бабра. Абкружылі яго, перахапілі рэчку і пачалі наладжваць свае „паляваньне“. У выніку, праз колькі хвілін выцягнулі з рэчкі ня жывога бабра і „ўрачыста“ накіраваліся да мястэчка **з сваёй здабычай.** На шляху яны і спаткаліся з тав. Хомчанка, які, даведаўшыся аб падрабязнасьцях забойства бабра, адабраў яго ў хлопчыкаў, стварыўшы камісію, склаў адпаведны акт і накіраваў у райтаварыства.

Райтаварыства, разабраўшы справу, канстатавала, што ніякіх захадаў і спагнаньня ў дачыненьні да хлапчукоў зрабіць нельга з прычыны іх малалетняга ўзросту (апошнія мелі па 14—16 год) і такім чынам бобр аказаўся „сьпісаным у расход“. Пасьля, калі нам прышлося гутарыць наконт гэтай справы з працаўнікамі таварыства, яны адказалі:

— Шкада, зразумела, бабра, але ж што ты будзеш рабіць, калі хлапчукі несьвядомыя. Каб гэта зрабіў дарослы, яго-б тады „падцягнулі“.

Мы, у даным выпадку, зусім ня зьбіраемся ўстанаўляць процант сьвядомасьці хлапчукоў, а таксама разважаць наконт таго, як „падцягнула-б“ Клімавіцкае таварыства „дарослага забойцу“. Мы адзначаем толькі, што гэты факт зьяўляецца яскравым прыкладам таго, што справа аховы бабровага заказьніку наогул пастаўлена зусім слаба, каб ня сказаць большага. Бо ў канцы канцоў справа, бясспрэчна, ні ў адным забітым бабры. Дапусьцім, што гэты выпадак становіць сабой і выключэньне. Але чым дакажуць працаўнікі таварыства, што гэта адзінічны выпадак, калі вартаўнікоў заказьніку няма! Чым давядзе яно гэта, калі вучоту бабровых сямей у таварыстве таксама няма! Чым, давядзе, нарэшце, што бабры гінуць можа і не адзінкамі, ад рук „дарослых“ браканьераў?..

Выходзячы з усяго гэтага мы і патрабуем перш за ўсё безадкладнага ўпарадкаваньня маючыхся заказьнікаў, у сэнсе вызначэньня іх межаў, належнай пастаноўкі работы па ахове, сталага вучоту бабровых сямей і інш. Бо ў даны момант задача арганізацыйнага замацаваньня калектыўных гаспадарак, не зважаючы на іх спэцыялізацыю і відавую ўстаноўку—стаіць, бясспрэчна, і перад усімі райтаварыствамі, **як канкрэтная задача дня.**

Таму мы і заяўляем зараз—досыць разважаньняў— пакажэце канкрэтную работу ў адзначаным напрамку!

Досыць спасылак на „недарослых“ забойцаў каштоўных жывёл—недапусьціце падобных фактаў!

Разважаньні-ж вашы наконт усялякіх аб'ектыўных“...—паказваюць толькі **суб'ектыўную вашу нязадольнасьць** адказваць за даручаную вам справу перад дзяржавай і перад паляўнічымі.

Але бабры тут ня пры чым!

**А. Баброў.**

## Драпежнікі

Паляўнічыя Машкоўскай ячэйкі паляўнічых Аршанскага раёну **Станкевіч Ляксей** (стралок аховы чыгункі ст. Ворша), **Хвашчынскі Рыгор** (вучань аршанскай школы Ф.З.У.), **Ленскі Пракоп** (рабочы матар'яльнага складу ст. Ворша), **Хвашчынскі Сьцяпан** (служачы Чашніцкага райспажыўсаюзу) на чале з сакратаром Машкоўскай ячэйкі паляўнічых **Мяжэвічам Васілём**—распачалі паляваньне ў гэтым годзе на балотную дзіч з 20-га ліпеня. 21-га ліпеня **Станкевіч Ляксей і Хвашчынскі Рыгор** са стрэльбамі і ганчакамі зрабілі аблаву на вывадкі качак ва ўрочышчы **Карабіна** і злавілі 4-х маладых, яшчэ нялётных качак, а 23-га ліпеня ўсе вышэй пералічаныя паляўнічыя са стрэльбамі і ганчакам

зрабілі аблаву на вывадкі качак у Забалацкіх балотах, дзе гнездавалася іх шмат. Качкі і там былі зьнішчаны гэтымі драпежнікамі. 24-га ліпеня прышлі паляўнічыя і замест качак знашлі патаптаную траву.

За парушэньне правіл паляваньня і зьнішчэньне яшчэ нялётных качак трэба выключыць з саюзу гэтых драпежнікаў.

**Крыжан.**

## Апартуністы з Ельску

Партыя і савецкі ўрад з выключнаю ўвагаю назіраюць за становішчам далейшага палепшаньня забясьпечаньня працоўных мас краіны.

Праўленьне Белкахотсаюзу, ў ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду аб палепшаньні грамадзкага харчаваньня працоўных мас, па ўсёй тэрыторыі спушчаны дырэктыўныя лісты, разасланы выпрацаваныя ўмовы на здачу грыбоў і іншай прадукцыі, якая дабываецца паляўнічымі.

Рад раённых таварыстваў за выкананьне гэтых дырэктыў па-бальшавіцку змагаюцца. Але ёсьць прыказка, што „сям'я не бяз ўрода". Такі „ўрод" знайшоўся і ў нашай паляўнічай сям'і. Гэта—апартуністы з Ельску, якія адмовіліся ад падпісаньня ўмовы па загатоўцы грыбоў, па здачы мяса бітай дзічыны і зьвярнулі назад дасланыя ім умовы.

Прывяду пастанову Ельскіх апартуністаў:

— „Выпіска з пратаколу № 2, пасяджэньня праўленьня Ельскага райтаварыства паляўнічых

Слухалі: аб загатоўках і варцы грыбоў.

Пастанавілі: у сувязі з тым, што спэцыялістаў па варцы грыбоў у раёне **знайсьці не ўдалося да гэтага часу,** заключэньне ўмовы адкласьці, а таксама і ад прыёмкі грыбоў наогул адмовіцца.

Другі дакумант.

— „**Белкахотсаюзу:** Ельскае раённае таварыства паляўнічых паведамляе, што мяса бітай дзічыны загатовіць няма магчымасьці з тае прычыны, што паляваньне на качак у раёне пачалося са спазьненьнем, а качкі ў Ельскім раёне трымаюцца толькі да 12|VII, пасьля чаго з-за адсутнасьці рэчак улятаюць невядома куды. Таму плянавыя заданьні па здачы мяса бітай дзічыны выканаць немагчыма" (подпісы).

Вось вам прыклад разважаньня апартуністых са спасылкаю на „аб'ектыўныя" прычыны. Вельмі шкада, што разам з качкамі „ня ўляцелі няма ведама куды" і апартуністы з Ельскага раённага таварыства паляўнічых.

Гэты ганебны адказ Ельскага таварыства павінна асудзіць уся наша паляўнічая грамадзкасьць і ў адказ на яго па-бальшавіцку ўзяцца за выкананьне плянавых заданьняў па загатоўцы мяса бітай дзічыны.

**Паўро.**

## „Каштоўныя" памылкі

Абшары Чачэрскага раёну спрыяюць жыцьцю ваўка і трэба адзначыць, што ваўкоў ёсьць досыць. Пра гэта сьведчыць штодня зьнікаючыя авечкі вёскі **Рыслаў'е** і два зарэзаныя коні калгасу **„Камінтэрн".**

Гэта толькі рахунак за апошнюю дэкаду і толькі аднаго сельсавету; па ўсім раёне „ўтрыманьне" ваўкоў будзе куды даражэй.

17 чэрвеня г.г. каля вёскі **Петрапольле** была прызначана аблава, але **Чачэрскае** праўленьне таварыства паляўнічых ня сумела, як належыць арганізаваць аблаву. Дзякуючы адсутнасьці пэўных паказаньняў з боку праўленьня на аблаву зьявілася каля 80 паляўнічых з агульнай колькасьці ў 250 асоб, з праўленьня таварыства быў толькі адзін тав. **Баранаў,** які сам ня ведаў, што яму рабіць. Карцечы было дастаўлена набояў на 40 і палове паляўнічых не хапіла, але самае галоўнае, што ня было ніводнага загоншчыка, бо загадзя аб гэтым не паклапаціліся. Старшыня сельсавету вёскі **Петрапольле,** да якога зьвярнуліся ў дзень аблавы адказаў, што няма людзей.

Аблаву як небудзь пачалі а 1-й гадзіне дня. Паляўнічых на ўсю лінію не хапіла, ды яшчэ 10 з іх пашло ў загон, бо загоншчыкаў прышло толькі 8 хлопцаў год па 7. Вынік быў відавочны. 18 загоншчыкаў на 4 кілёмэтры загону зусім недастаткова. Ваўкі засталіся цэлы і неўрадзімы і вельмі дзякуюць арганізатарам аблавы. Хутка прадставяць свой другі рахунак...

**В. К-віч.**



Паляўнічыя Бялыніцкага т-ва паляўнічых на аблаве. Уніве ляжаць 6 забітых ваўкоў.

## Забілі чатыры ваўкі.

Шаршунская ячэйка паляўнічых два тыдні сачыла ваўкоў, якія цягалі жывёлу акаляючых калгасаў. Урэшце ваўкі былі абкладзены. Ячэйка зьвярнулася да калгасу „Расьсьвет", каб далі загоншчыкаў, старшыня калгасу людзей даць адмовіўся. Аблава была ўтворана сваімі сіламі. Забіта чатыры маладых ваўкі.

Згодна распараджэньняў Белкахотсаюзу паляўнічыя за забітых ваўкоў павінны прэміравацца грашымі і боепрыладамі. Між тым, Заслаўскае раённае таварыства паляўнічых прэміраваць ня хоча. Гэтым самым адбіваецца жаданьне паляўнічых на барацьбу з ваўкамі. Трэба раз назаўсёды ўстанавіць прэмію арганізатарам аблавы за ўдалае правядзеньне аблаў.

К. К. С.

## Засталіся бяз боепрыладаў.

Езярышчанская ячэйка паляўнічых, атрымаўшы заданьне па загатоўцы дзічыны, камандыравала свайго прадстаўніка т. Шырокага ў Гарадоцкае райтаварыства паляўнічых за боепрыладамі. Таварыш Шырокі прахадзіў цэлы дзень, шукаючы начальства райтаварыства, каб атрымаць боепрылады, і ўрэшце, вярнуўся ні з чым, дамоў.

Так паляўнічыя Езярышчанскай ячэйкі і засталіся на першы дзень адчыненьня паляваньня па балотнай дзічы бяз боепрыладаў, а значыць і без паляваньня, чым было сарвана заданьне нарыхтоўкі дзічы. Трэба прыцягнуць гарадзкіх бюрократаў з райтаварыства паляўнічых да адказнасьці.

С. П.



Тав. Мірановіч. Паляўнічы Менгартаварыства. Лепшы здатчык пушніны.

# Вынікі летняга паляваньня на Рагачоўшчыне

Паляваньне на качак і іншую балотную і вадзяную дзіч пачалася ў Рагачоўскім раёне ў два тэрміны: 20 і 24 ліпеня. 20 ліпеня палявалі вайсковыя паляўнічыя, а 24—гарадзкія. Здарылася гэта таму, што што ў Барысаве на канфэрэнцыі, куды езьдзіў прадстаўнік ад Рагачоўскага раёну, вызначылі тэрмін паляваньня 20 ліпеня, а потым было атрымана распараджэньне з Менску, што яно пачынаецца 24.

Такім чынам, па вёсках, дзе рашэньне канфэрэнцыі было вядома, распачалі паляваньне 20, а гарадзкія паляўнічыя, прытрымліваючыся тэрміну, вызначанага Наркамзамежгандлем, распачалі паляваньне 24 ліпеня і, зразумела, засталіся вельмі не здаволены тым, што ім давялося таптаць ужо досыць вытаптаную траву. Гэтакая няўвязка і недагаворанасьць адпаведных органаў паміж сабою адносна тэрмінаў паляваньня шкодна адбіваецца на становішчы нашае паляўнічае гаспадаркі і патурае нежаданаму браканьерству, якога ў нас і бяз гэтага шмат.

Качак, супроць чаканьня, аказалася параўнаўча мала і пераважна былі лётныя. Праўда, былі і „лапуны“ і „паўзуны“, але больш было лётных чыркоў. Але было-б яшчэ нічога, каб паляваньне пачалося ў адзін дзень. Але гэтага і ня было і загатоўкі дзічы сарваны. Гэта здарылася таму, што адны паляўнічыя рабілі „лапуноў“, а другія і зусім не стралялі. Праўда, ёсьць і такія, што на паляваньне і зусім не хадзілі альбо хадзілі толькі адзін ці два разы.

Тут трэба дадаць, што і гэтакай колькасьці дзічыны сёлета нашы паляўнічыя ня здалі-б, каб не прымусіла іх да гэтага патрэба ў набоях (шрот і порах). Справа ў тым, што наша праўленьне, навучанае горкім вопытам мінулага году прыняла адпаведныя захады: перад пачаткам паляваньня выдавала кожнаму паляўнічаму толькі па 200 гр. шроту, за першае кілё качак—па 300 гр., а потым за кожную качку—па 100 грам. І вось гэта мерапрыемства зрабіла тое, што дзічанарыхтоўка па нашаму раёну будзе выканана.

Але-ж пры гэтым здарылася прыкрае непаразуменьне, якое вельмі шкодна адбілася на нарыхтоўцы дзічы. Было ўмоўлена з Райсаюзам здаваць дзічыну і на мясцох у Сельпо, асабліва ў дальніх ячэйках, каб не адвозіць яе кожны раз у горад. Але некаторыя СельПО, як напрыклад, Кісьцянеўскае, Гарадзецкае, Станькаўскае, адмовіліся яе прымаць, у выніку чаго наш каапсаюз пазбаўлен быў шмат мяса і пяра. На будучы час гэтае пытаньне трэба ўрэгуляваць і не рабіць перашкод у найлепшым выкананьні заданьняў па нарыхтоўцы дзічы.

На забясьпечаньне паляўнічых боепрыпасамі трэба зьвярнуць увагу. Бо справа гэта пастаўлена дрэнна не па віне нашага праўленьня, а па віне тых устаноў, якія снабжаюць нашы паляўнічыя крамы і часта даюць ім тое, што зусім непатрэбна. Вось, напрыклад, выдадзена была нашаму праўленьню 40 кілё шроту для продажы па камэрцыйнай цане. Цана невялікая—1 р. 40 к. кілё. **Але да кожнага кілё далі яшчэ прыдатак—ашыйнік для сабакі ў 4 руб. і такім чынам кілё шроту абыйшлося паляўнічаму 5 р. 40 к.** Гэта ўжо крыху і „кусьліва“. Але што будзе рабіць раённае праўленьне, калі без ашыйнікаў яму шроту ня далі. Зразумела, што яно таксама прымушана даць шроту паляўнічаму, надзеўшы на яго ашыйнік, бо ў шмат якіх паляўнічых сабак зусім няма і ашыйнікі ім не патрэбны. Вось гэтыя і падобныя да іх пабочныя прылады на агульных сходах паляўнічых выклікаюць, з боку апошніх, нездавальненьне, нараканьні, спрэчкі і зьяўляюцца повадам для таго, каб крытыкаваць справаздачы.

Трэба яшчэ дадаць, што наша крама незабясьпечваецца ў дастатковай ступені ўсім тым, што патрэбна паляўнічым: у ёй няма дробнага шроту, часта ня бывае патронаў усіх калібраў, капсулей, пыжоў і інш. Няма па той простай прычыне, што гэтых прылад краме не адпускаюць. Ёсьць і такія выпадкі, якія зусім не залежаць ад праўленьня. Напрыклад, для трусятнікаў трэба агарожа, матар'ял для якой набылі, а цьвікоў няма і нідзе здабыць іх немагчыма. Тым часам некаторыя ўстановы просяць прадаць ім трусоў, а садзейнічаць іх гадоўлі размнажэньню ніхто не жадае.

Расцэнку на дзічыну Белкахотсаюз робіць некалькі разоў і несваячасова дасылае яе па раёнах. Прычым, у некаторых выпадках расцэнка гэта няправільная. Напрыклад, качка і рабец пастаўлены ў аднэй цане, а шэрыя дразды, рабінаўкі, зусім прапушчаны, у той час, калі яны вельмі вялікія і дасягаюць вагі дупеля. Таксама прапушчаны і сіўцы (ржанкі), якія зьяўляюцца ў некаторых мясцох у пачатку зімовай сяўбы у вялікай колькасьці.

Відаць, што расцэнка рабілася асобай, якая ня мае ніякага дачыненьня да паляваньня.

**Язэп Стратановіч.**

# Нарміраваньне працы ў паляўнічым промысьле

У пэрспэктыву 2-га пяцігадовага пляну пушной галіны ў агульнай сыстэме рэканструкцыйных мерапрыемстваў выступае актуальнейшай задачай рэглямантацыя і нармаваньне працоўных працэсаў у паляўнічa-прамысловай гаспадарцы.

Праца, як складаная частка вытворчасьці прамысловых прадпрыемстваў каапэрацыйнага і саўгаснага тыпу, зусім ня вывучана.

Практычна, кіруючыя органы гаспадарча-каапэрацыйнай сыстэмы, да гэтага часу арганізацыйна-вядучую работу ў галіне вытворча-працоўнай дзейнасьці прамысловых калгасаў не паставілі на належную вышыню.

Як вынік, вытворча-працоўная дзейнасьць прамысловых калгасаў, ня мае чоткіх арганізацыйных форм, аграмаджаных і нармалізаваных норм вырабаткі калгасьнікаў у розных промыслах і адзінай сыстэмы аплаты працы, адказваючай задачам унутрыкалгаснага будаўніцтва.

З пераходам прамысловых калгасаў на зьдзельную аплату працы, як найбольш спрыяючую павялічэньню эфэктыўнасьці працаўкладаньняў у паляўнічa-прамысловай гаспадарцы, вялізарнае значэньне набывае ўстанаўленьне правільных норм выпрацоўкі калгасьнікаў у асобных занятках і ацэнкі іх у працаднёх, выступаючых колькасна-якаснай мерай працы, па якой у канцы гаспадарчага году калгасьнік атрымлівае вырабатаную ім долю ў даходзе калгасу. Адсутнасьць рэглямантуючых зьдзельшчыну ўказаньняў ад краявых і раённых паляўнічых саюзаў, так неабходных пры пераходзе прамысловых калгасаў на зьдзельную аплату працы, прымусіла апошніх самабытным парадкам устанаўліваць нормы вырабаткі і ацэнку іх у працаднях.

Па матар'ялах справаздач прамкалгасаў Усход.-Паўноч. края відаць, што практыка калгасаў аказалася няздольнай вырашыць пытаньне арганізацыі працы ў промыслах.

Устаноўленыя нормы вырабаткі ў падсобных промыслах (кедравы, ягадны, лесагаспадарчыя работы і г. д.) у розных калгасах уяўляюць супярэчлівыя каэфіцыенты.

У паляўнічым промысьле нормы вырабаткі і ацэнка іх у працаднях устаноўлена ў грашовым выражэньні, што супярэчыць асновам фінансавай структуры калгасаў з аднаго боку і з другога ня можа быць цярпіма як стымулюючы, шкодны для паляўнічай гаспадаркі напрамак прамысловай дзейнасьці калгасьнікаў.

Паляўнічаму-калгасьніку, здабываючаму на пэўную суму рублёў пушніны, налічваецца за работу колькасьць працадзён, вызначаемая шляхам дзяленьня пэўнай сумы на 5—3—2 рублі (у розных калгасах). Паколькі каштоўнасьць здабытай паляўнічым пушніны вылічаецца па загатоўчых цэнах на яе, пастолькі крытэрыем для вызначэньня працазатрат паляўнічага выступае не рэальная мера працы, а загатоўчая цана, спажывецкая каштоўнасьць гатовага прадукту працы паляўнічага.

Ужываньне такога крытэрыя ў практыцы прамыслова-паляўнічай дзейнасьці вядзе да ўзмоцненага зьнішчэньня цэнных відаў прамысловых жывёл і ня спрыяе, а супроцьдзейнічае ўцягненьню новых асартымэнтаў пушніны ў аб'ём аб'ектаў выкарыстаньня і промыслу.

Сапраўдная, дзейнічаючая сыстэма аплаты працы ў прамысловых калгасах стаіць у прамым супярэчаньні задачам, вызначаным у пастанове СПА ад 3/X-31 г.: „Абавязаць . . . . . . паляўнічую каапэрацыю весьці работу па арганізацыі (гаспадаркі С.), забясьпечыўшы ахову каштоўных відаў ад драпежніцкага зьнішчэньня, вядучы **рацыянальную эксплёатацыю паляўнічых угодзьдзяў,** акліматызацыю новых і **аднаўленьне зьнішчаных каштоўных відаў**“ (падкрэсьлена мною С.).

Апартуністычна-бяспрынцыпная практыка месц не крытычна ўспрынята, узаконена і прынята да кіраўніцтва калгасам Усходня-Сібірскім крайкалгассаюзам. Выданыя ім „Прыкладныя нормы вырабаткі і ацэнкі іх у працаднях“ у пушна-мехавым промысьле, заснаваны на традыцыйнай адзінцы ваверкі, выступаючай каэфіцыентам пераводу каштоўнага выражэньня прамысловых аб'ектаў [1]).

Існуючае палажэньне з нармаваньнем і аплатай працы ў паляўнічым промысьле цярпіма быць ня можа. Неабходна нармаваць працэс паляваньня і аплачваць працу паляўнічага, выходзячы не з цаны прадукту ахотпромыслу, устанаўліваемай загатоўчымі арганізацыямі, а з рэальных працоўных затрат на той ці іншы выгляд прамысловага аб'екту.

У любой сацыяльнай сыстэме каштоўнасьць вытвараемага ці здабываемага прадукту вызначаецца колькасьцю грамадзка неабходнай працы затрачваемай на яго прыгатаваньне.

Устанаўленьне грамадзка-неабходнай працы ў паляўнічым промысьле для распрацоўкі працоўных норм яе ў адпаведнасьці з разьмерамі працазатрат, на той ці іншы від прамысловай фауны і павінна зьявіцца мэтадалёгіяй рэглямантацыі працы ў паляўнічай гаспадарцы.

Рэглямантацыя канкрэтнай працы затрачваемай на кожны аб'ект паляваньня прамыслоўцам калгасьнікам ці рабочым прамыслова-паляўнічага прадпрыемства, перш за ўсё, адхіліць нецярпімы ва ўмовах сацыялістычнага гаспадараньня ажыятаж у выкарыстаньні паляўнічага фонду Саюзу, стымулюемы аплатай працы ў паляўнічым промысьле па загатоўчай цане прадуктаў паляваньня. Адстрэл прамфауны, стыхійны і супярэчачы сацыялістычным прынцыпам гаспадараньня, у рэканструктуяванай паляўнічай гаспадарцы павінен быць і будзе заменен плянам выкарыстаньня паляўнічага фонду, рэгулюючым здабычу прамысловых жывёл на аснове поўнага і рацыянальнага выкарыстаньня відаў прамфауны. З другога боку нормы працаёмкасьці работ у промыслах вялізарнае значэньне маюць для ўнутранай дзейнасьці калгасу і прамысловага прадпрыемства. Пляннаваньне выкарыстаньня працоўных рэсурсаў на аснове правільных норм выпрацоўкі, аплаты калгасьнікаў па якасьці і колькасьці затрачваемай ім працы—зьяўляецца магутным стымулам гаспадарча-палітычнага ўмацаваньня прамысловых калгасаў.

Што-ж павінна зьявіцца спосабам вызначэньня рэальных працазатрат у паляўнічым промысьле,—устанаўленьня грамадзка-неабходнага часу затрачваемага на здабычу прамысловых аб'ектаў найбольш

[1]) Разгорнутую крытыку гл. у артыкуле „За марксысцка-ленінскую мэтадалёгію арганізацыі працы ў ахотпрамгаспадарцы“ Зборнік „Да праблемы сац. рэканструкцыі ахотпрамгаспадаркі“. Іркутск, 1932 г., ОГИЗ.

сваясаблівай галіне прылажэньня працоўнай энэргіі чалавека па формах і прадметах працы.

Прыходзіцца сумнявацца на першы погляд і ў самай магчымасьці нармаваньня працы ў паляўнічым промысьле.

Умовы вытворчасьці промыслу не зьяўляюцца аднолькавымі ня толькі ў розных месцах і ў розны час, але і ў працягу раду дзён у адзін сэзон промыслу ў адным угодзьдзі. Паляўнічаму можа выпасьці „ўдача", у выніку яе промысел прынесіць большы эфэкт, у праціўным выпадку ён зварачаецца в промыслу ні з чым.

У промысьле шмат залежыць ад вопытнасьці, зручнасьці, прылад паляваньня, прамысловага сабакі паляўнічага і г. д. Паляваньне, як працоўны працэс зьвязана з абставінамі, якія не паўтараюцца ў заканамерным(?) парадку, таму не паддаецца вывучэньню, а значыць і нармаваньню. Усе гэтыя „супроць" ідэі нармаваньні працы ў ахотпромысьле, якія могуць быць выказаны шмат якімі практыкамі паляўнічай справы, сьведчаць як справе „цёмнай" як і сам лес, у якім утвараецца паляваньне, навукова-беспадстаўны і супярэчаньні не па сутнасьці.

Мэтад навуковага дасьледваньня, як адзіна-рацыянальны спосаб нармаваньня працы ў паляўнічым промысьле сваёй мэтаю і будзе мець усе гэтыя зьменлівыя і немагчымыя, на першы погляд, для вучоту вытворчыя ўмовы, вывучыць і зьвесьці шляхам нармалізацыі і сярэднім каэфіцыентам—поўнасьцю рэглямантуючым усе бакі вытворчага працэсу паляваньня. І перш за ўсё мэтодыка-навуковага дасьледваньня вытварэньня паляўнічага промыслу павінна даць эфэкт у нармаваньні працазатрат калгасьніка-паляўнічага пры здабычы відаў прамысловых жывёл.

Праводзімыя ў бягучым годзе „Отраслевым Научно-Исследовательскім Институтом Охотпромхозяйства" (у Іркуцку) дасьледваньні па працы ў паляўнічым промысьле маюць мэтаю ўстанавіць шляхам масавых назіраньняў з наступнай нармалізацыяй іх, каэфіцыенты працазатрат у промысьле на вавёрку.

Тэхнікай нагляданьня зьявіцца вучот усіх бяз выключэньня затрат часу, зьвязаных в вытварэньнем промыслу як непасрэдна выцякаючых з працэсу паляваньня, так і папярэдніх і ідучых разам з ім.

У аб'ём нагляданьняў увойдзе: падрыхтоўка да промысла, як: рамонт адзеньня, уючнага знаражэньня, самаловаў і т. д., зборы і выезд, накіраваньне да месца промысла з фіксацыяй характару і стану шляху, усе работы, утвараемыя на становішчы і нарэшце сам працэс паляваньня. Работа, утвараемая ў працэсе паляваньня, вывучаецца па стадыях падрыхтоўчай, дапаможнай, асноўнай і заключнай. У разуменьне падрыхтоўчай работы ўключаюцца дзеяньні паляўнічага - прамыслоўцы да промыслу, прылады працы, кармленьне сабак, прыгатаваньне ежы для самога сябе і інш. З стадыі падрыхтоўчай работы паляўнічы пераходзіць



Паляўнічыя Бялыніцкага т-ва паляўнічых разам з загоншчыкамі.



да дапаможнага ўзьдзеяньня для ўтварэньня асноўнай работы, г. зн. адшуквае зьвера, асвайваючы з гэтай мэтаю пэўную тэрыторыю. Пры паляваньні з самаловамі да дапаможных дзеяньняў адносіцца асваеньне ўгодзьдзя з мэтаю расстаноўкі ловячых прыбораў і прывядзеньня іх у належнае баявое становішча.

Вучот дапаможнай работы будзе весьціся таму ня толькі ў часе, але і ў колькасьці га, абыйдзеных паляўнічым вучасткаў. Гэтым дасягаецца ўжываньне цьвёрдага крытэрыя працазатрат прамыслоўца, у асвайваемых адзінках тэрыторыі ў адзінцы часу. З моманту знаходжаньня зьвера паляўнічы ўтварае дзеяньні па яго здабычы.

Пры паляваньні самаловамі такімі дзеяньнямі зьяўляцца абходы іх і абіраньне злоўленага зьвера.

Сукупнасьць дзеяньня па здабычы пры ружэйным паляваньні і абіраньне самаловаў пры самалоўнай і складзе аб'ёму асноўнай работы, якой вызначаецца вытворчы эфэкт усіх працоўных дзеяньняў і дасягаецца мэта іх.

Наступныя дзеяньні, утвараемыя для наданьня дабычы стану патрабуемага для хаваньня на месцы промыслу, складае заключны этап работы, таксама як і час, затрачаны на зварот у стан, пасьля праведзеных на працягу рабочага дня працоўных апэрацый.

Пры апрацоўцы даных нагляданьняў на працягу сэзону промыслу вывады абгрунтоўваюцца:

1. На вычарпальных даных аб суб'екце працы і прыладах працы, г. зн. вопытнасьці, зручнасьці, узбраеньні паляўнічага і г. д.

2. На даных аб аб'ектах працы і ўмовах аб'ектыўнага характару, якія была пры промысьле.

Да іх адносяцца біолёгічная і зоагэографічная характарыстыка мясцовасьці, якую знаходзяць ня шляхам спэцыяльных дасьледваньняў, а са справаздач паляўніча-ўпарадкавацельных экспэдыцыйных абсьледваньняў;

Вынікам праўдзімай работы па вывучэньні працы ў паляўнічым промысьле зьявіцца ўстанаўленьне паказчыкаў працаёмкасьці промыслу на вавёрку характэрных для мясцовасьці, у якой утвараюцца нагляданьні.

Абагульненьне іх да каэфіцыентаў, адказваючых умовам вытворчасьці паляўнічага промыслу ў другіх паляўнічых раёнах, магчыма праз супастаўленьне біолёгічных і зоагэографічных даных гэтых раёнаў з такімі ж паказчыкамі вывучанай у адносіне працы тэрыторыі.

Магчыма, што практыка вывучэньня працы ў ахотпромысьле ўнясе карэктуру ў прыватнасьці разгорнутай тэарэтычнай схэмы.

Кірунак жа дасьледваньня ў цэлым, заснаваны на марксыцка-ленінскай тэорыі, які і зьяўляецца мэтадам навуковай арганізацыі працы, ёсьць адзіна правільным, а значыць і пладатворным спосабам вырашэньня праблемы працы ў паляўніча-прамысловай гаспадарцы.

**Самайловіч.**

---

*Літаратурная старонка*

# Максім з „Малінавай рошчы“

Быў канец ліпеня. Стаяла цудоўнае надвор'е, такое надвор'е, калі якраз пара ўбіраць і сушыць сена, жаць жыта; на лугох зьвінела ад усходу да захаду аб касу трапышка, у хвалістым, зыбкім як мора, жаўтавата-залацістым жыце пераліваліся галасы жніц і, нібы ў акампанімэнт ім, у небе сьпявалі жаўранкі.

Поўны разгар лета! Яшчэ, здаецца, тыдзень-два і пачне асыпацца ліст, апусьцеюць палі і лагі,—самая пераможная пара, калі ўжо адчуваецца хада восені... І, ня гледзячы на гэта, усюды была нейкая радасьць, нейкае вясельле, вясельле ад таго, што жыта добра ўрадзіла, трава расла вялікая і ўсё гэта ўбіраецца ў добрае надвор'е, нічога ня псуецца, нічога ня траціцца.

Такое было ўражаньне навакол!

Неяк выдаўся вельмі цёплы дзень. Яшчэ з раньня немагчыма было ўседзець на сонцы. Па небе дзені дзе плылі, як ветразьныя лодкі, дымчатыя і, адначасна, бела-малочныя, воблакі. Рабіць мне было нечага і рашыў я наведацца ў „Малінавую рошчу“.— Якраз пасьпела маліна, ато і цецярука якога небудзь зашыбу!—падумаў я. Рашыў і пашоў, узяўшы з сабой Брэма і ламанку, з усімі да яе прыладамі.

„Малінавая рошча“—гэта астравок лесу, які з усіх бакоў абкружаны балотам, месцамі даволі топкім і вельмі зарослым рознай дробнай расьлінасьцю месцамі—сухім, мохавым балотам, з дробнымі карлікавымі сасоначкамі, а месцамі зусім голым, так званым „галым“ балотам, дзе нічога не расьце, апрача моху, па якім чырванеюць журавіны ўвосень, дзе нічога ня знойдзеш з дзічы, хіба толькі якую небудзь сініцу.

Каб прайсьці ў Малінавую рошчу гэтым месцам, праз галыя балоты, трэба ісьці доўга, кілёмэтры два і, вядома, зморышся ў такую сьпёку. Але ёсьць месцы, дзе гэта балота „зацягвае“ пад малінавую рошчу толькі краем, па мясцоваму „ашыінай“. Хаця тут, звычайна, і вельмі шмат расьліннасьці, але ўсё ж такі ў Малінавую рошчу лепш за ўсё прабірацца тут, бо балотам прыходзіцца ісьці недалёка, якога-небудзь паўкілёмэтра. Праўда, праходзячы гэту „ашыіну“—ня мала прыходзіцца патаптаць гразі, скакаць з купіны на купіну, з вываралі на вываранць, з пня на пень; нямала прадзірацца праз густа зарослы алешнік і іншыя балотныя расьліны, але той, хто добра ведае дарогу, або паляўнічы, якому „мора па калена“, які прывык перціся ў самую багну, заўсёды знойдзе тут дарогу ў Малінавую рошчу.

У гэтай Малінавай рошчы быў, калісьці, як я памятаю гадоў таму дваццаць, вельмі буйны, вельмі густы і цёмны лес,—лес, у якім пладзіліся бурыя мядзьведзі, шэрыя ваўкі, вялізарныя, важкія глушцы, цецярукі і рабцы. Гэты лес наводзіў, бывала, жах на сялян акаляючых вёсак: Малінавай рошчы, Падмалінаўкі і Канцы ня толькі сваімі жыхарамі, але і сваёй таемнасьцю, дзікасьцю, цемнатой,—увойдзеш у яго ўлетку, дык як у пограб. Аб ім хадзілі легенды.

Але гадоў таму дваццаць узімку прыехалі купцы, абгледзелі гэты лес і купілі яго. І замест прыземістых кражоў дуба, замест рагатых кляноў і смольных, гонкіх, як струны і роўных сасонак, якія расьлі тут невядома з якіх часоў, засталіся дзялянкі, з маладымі акоткамі сваіх продкаў, парос маліньнік. Прапалі мядзьведзі, а на месцы іх, на дзялянках, яшчэ ў большай колькасьці разьвялося пярнатых стварэньняў.

Дык вось, вышаў я ў гэтую Малінавую рошчу. Хутка прайшоў поле, увайшоў у невялікі, ужо даволі высечаны лес, які складаўся з кустоў арэшніка, адзінокіх бярозак, елак і сасонак, дубкоў і клянкоў, часамі вольхі і ліпы, які называўся Падмалінаўшчынай. Калісь, на маёй памяці, і тут быў вялізарны, страявы лес. Прайшоў гэтую Падмалінаўшчыну і пачаў шукаць сьцежку праз балота ў Малінавую рошчу, па якой, бывала, ня раз я хадзіў і якая, як я ведаю, была адразу-ж за першай лагчынай,—на курганку заварачвала з дарогі ўлева. Шукаў я, шукаў гэтую сьцежку і нічога не знайшоў. Вярнуўся назад і пачаў яшчэ шчыльней прыглядацца да дарогі. Урэшце ўбачыў патаптаную траву ў адным месцы. Прайшоў з дарогі крокаў на дзесяць па гэтай патаптанай траве ў лес і, урэшце, упэўніўся, што гэта самая і ёсьць сьцежка ў Малінавую рошчу. Вось тая самая і крынічка, дзе я ня раз піў халодную, як лёд і сьветлую, як першагатунковае шкло,

вадзічку. Я падышоў да крынічкі і напўся. Вада такая-ж самая халодная, як і некалькі гадоў таму назад,—аж у зубы заходзіць. Крынічка таксама цячэ з пад карэньняў дрэў, у цяньку лесу пад навесам лісьця алешніка, бяроз і ліп. Вось тая самая і вываранць старой, трохсотгадовай ліпы. Нават і кусьцік маліньнiку неяк хахалком тырчыць на ёй, нібы не зьмяніўшыся,—толькі мох нібы пасівеў ды пагусьцеў на калодзе вывараці. Бывала, папіўшы вады сарвеш з гэтага кусточка сьпелую пахучую маліну, пакладзеш яе ў рот і яна растваняецца там, растваняецца, як цукерка ці ірыска.Ісьцежка неяк, як кінутая кім-небудзь аборынка, круціцца то ўправа, то ўлева, то зноў назад, навокал вывараці, у абход яе, між травы і дрэў. Тая самая сьцежка і гаворкі няма!—думаў я, ідучы ёю, усё сьмялей і сьмялей прабіраючыся ўперад.

Брэм то зьлева, то справа, то сьпераду, то ззаду мільгае сваім лахматым хвастом, пападаецца мне на вочы між дрэў і кустоў. Пад яго нагамі трашчаць ужо згніўшыя сучкі лома. Весела шчабечуць недзе ў лісьцьве, у верхавіньні дрэў, дробныя птушкі: івалгі, дразды, малінаўкі, а часамі і малады салавей спрабуе свой голас, свой талент. І ад гэтых сьпеваў неяк становіцца радасна і спакойна на сэрцы...

Праз мінут некалькі я стаў спускацца з кургана да балота, да ашыіны. Лес усё драбнеў і драбнеў, але за тое—усё гусьцеў і гусьцеў. Пад нагамі пачало пападацца больш лому, больш пагусьцела трава. Вось адчуваецца пад лапцем вільгаць! А я ўсё іду і іду ўперад, з поўнай надзеяй, што хутка пачнецца балота, прайду яго, а там і Малінавая рошча. Іду і прыглядаюся да сьцежкі, якая то траціцца ў траве і ломе, то зноў выпаўзае адтуль. Праз мінут пяць і зусім недзе страцілася ў траве. Прапала сьцежка!

Я азірнуўся навокала.—Няма! Прайшоў крокаў дзесяць улева.—Няма! Узяў управа.—Таксама няма! Што за ліха!?

Тады я вярнуўся назад, прыглядаючыся пад нагамі да сваіх ранейшых сьлядоў, каб ня зьбіцца ў бок.—Хто яго тут ведае? Даўно быў, яшчэ заблудзішся! Але, нічога, хутка зноў вышаў на сьцежку.

Як толькі ўпэўніўся, што гэта сьцежка тая самая, па якой я ішоў раней, я зноў падаўся ўперад, не трацячы надзеі ўсё-ткі дайсьці да Малінавай рошчы, знайсьці яе, дасягнуць сваёй мэты. Хутка зноў пачалі пападацца нейкія гнілыя калоды на маім шляху, якія прыходзілася абыходзіць, каб не зачапіцца, не паваліцца ды не ўдарыцца. Гэтыя калоды былі абросшы папарацьцю, часамі маладой асакой, ліпнікам, калінай і малінай, але сьляды чалавека, які праходзіў тут раней, былі відны. Гэта і была сьцежка. Пападалася тутака і вязкая, ліпкая гразь, якой з кожным крокам бліжэй да балота рабілася ўсё больш і больш, мясцовасьць пападалася з кожным крокам балоцісьцей і балоцісьцей. Я чапляўся лапцямі за сукі, за лом, скакаў з пня на пень, увязаў у гразь, хутка перабягаў асаку ростам мне па пояс, каб не хапіла дзе-небудзь за нагу гадзюка ў старой леташняй траве, але ўсё яшчэ ішоў уперад, прыглядаючыся да сьлядоў, да сьцежкі, з поўнай надзеяй, што іду па вернаму шляху, што гэта і ёсьць тая самая сьцежка, якая вядзе ў Малінавую рошчу, туды, куды я і хачу папасьці.

Урэшце стаў пападацца такі густы маладняк, што нельга было зрабіць і аднаго кроку. Проста ўпёрся ў нейкую сьцяну, што Брэм мой, які ішоў уперадзе і той азадачана пагледзеў мне ў вочы, нібы гаворачы: „Трапілі мы з табой". А гэтыя маладыя акоткі, пабегі дрэў усё гусьцелі і гусьцелі. Я пагледзеў пад ногі, сьлед яшчэ быў.

Каб як небудзь прабрацца ўперад, я рукамі разгортваў перад сабой гэты зарасьнякі, дзе можна было стараўся абыйсьці, а то прабягаў, хістаючыся, некаторую адлегласьць па якой-небудзь калодзе або верхавіне, адшукваў зноў сьлед і ішоў далей. Урэшце перада мной адкрылася такая багна, што я, проста, спачатку, пабаяўся ступіць туды нагой. Мне здавалася, што там сядзіць якая-небудзь гадзіна, а што яны тут ёсьць, я аб гэтым ведаў. Здавалася, што я правалюся па вушы ў гэтую процьму, а пакуль падасьць хто дапамогу, дык і воран косьці разьнясе па гэтаму дзікаму лесе. Апрача таго, мне мярэшчылася, што тут абавязкова ёсьць мядзьведзь і я на яго наткнуся, а тады... капут! Хаця я і ведаў, што іх тут няма. Чаго мне толькі не мярэшчылася тут! Стала неяк страшна! Я азірнуўся навокал. Пераставіў у другое месца нагу, бо тут нешта нібы закраталася па траве, нібы засіпела. І як толькі я гэта зрабіў, пад нагой сапраўды, мне здалося, засіпела ў леташняй сухой траве, у якой былі ў гэты момант мае ногі. І заразжа, неяк, спачатку, нэрвова дрыгнула нага, а потым і забалела ў тым месцы, дзе я ведаў, было голае цела, вылезшае з лапця. Я ўвесь уздрыгнуўся і пабег да пня, хутка, як наэлектрызаваны, ступаючы ў траву і выхватваючы адтуль нагу. Прыбег да пня і стаў на яго. Пагледзеў туды, дзе мне паказалася была гадзюка.—„Не, нічога! Трава, як трава!" Скакнула жабка і ўсё зноў сьціхла. З-за куста маладога ліпніку зьдзіўлена, жаўтаватымі вачмі, пагледзеў на мяне Брэм, потым апусьціў галаву і панюхаў тое месца, дзе раней стаяў, адкуль уцёк.—„От дзівак! Чаго я спалохаўся?! Людзі праходзяць Афрыку, б'юцца з кракадзіламі, з тыграмі і ільвамі, а я пабаяўся... Чаго?!

І мне неяк сорамна стала самаго сябе, сорамна стала перад маім Брэмам і я пасьмяяўся. Сьмеласьць мая расла і расла, але я яшчэ баяўся зьлезьці з пня. Потым успомнілася кіно. Ішоў нейкі фільм з жыцьця паляўнічых, якія паехалі ў Афрыку ці Аўстралію,—не памятаю ўжо!—на львоў. Вось львіца нясецца на аднаго з паляўнічых, хітра прыціскаючыся да зямлі, зьліваючыся з травой. Паляўнічы сьмела, з нейкай напруджанай, але задорнай усьмешкай глядзіць перад сабой. Яшчэ два-тры скачкі і белыя моцныя іклы ўвап'юцца ў цела паляўнічага, вострыя кіпцюры разарвуць яго мяса на кавалкі, застанецца толькі мокрае месца ад жывога чалавека, які адважыўся парушыць дзікія законы пустыні... Вось яна ўжо блізка. Яшчэ скачок і ўсё кончана! Паказаўся з травы лоб львіцы. Паляўнічы лёгка, з той-жа ўсьмешкай, ускідвае вінтоўку Маузэра, з яе рулі нейкай струйкай брызнуў белаваты дымок і... львіца ляжыць пакорна перад ім, а з пысы і ранкі на галаве цячэ алая, сьветлаватая кроў. „Сьмеласьць гарады бярэ!" Але-ж і зьвер сьмелы!? Чаму перамог чалавек?

Паляўнічы з тэй-жа ўсьмешкай падыходзіць да львіцы і тармосіць яе за карак, а яна ляжыць, ляжыць мёртвая, нібы ніколі і ня жыла...

У гэты момант я пагледзеў у бок. Туды-ж павярнуў галаву і мой Брэм. „Ага! Ляжыць! Вунь... мядзьведзіца!" І голас мой нібы задрыжэў, нібы я на самай справе сказаў гэтыя словы, убачыў

зьвера. Я добра ведаю, што гэтага быць не магло, што гэта ўсё прадукт майго спалоху, што мне трэба супакоіцца і сьмела, сьмела, як здароваму паляўнічаму ісьці ўперад і, тым ня менш, не магу гэтага рабіць, усё мне здаецца, што ляжыць мядзьведзіца і што хочаш рабі. Паглядзеў зноў я на Брэма. Той скігатнуў. „Эх“! Што я за паляўнічы такі, калі баюся ў лес хадзіць?! А хадзіў-жа тады, малым калі быў і... бяз стрэльбы хадзіў. Што-ж зараз са мной такое адбылося? Эх, ты!“ І злосьць узяла самога на сябе. Я ўзяў стрэльбу на ізгатоўку, узьвёў куркі і пашоў туды, дзе ляжала мядзьведзіца. І ведаю, што яе тут няма, а іду, іду і стрэльбу трымаю ў руках, гатовую да стрэлу і баюся, усё-ж такі, баюся, аглядаюся назад. Там і Брэм ідзе за мной, забег уперад, панюхаў той чорна-буры пень, які мне здаваўся мядзьведзіцай і падняў нагу. „Ха-ха-ха!“—засьмяяўся я сам з сябе.

Прайшоў крокаў пяць, пералез праз калоду, падышоў туды: „Сапраўды корч! От, каб цябе ліха“!? І тады я разумею, якім чынам гэты пень здаўся мне мядзьведзіцай. Як убіралі дзялянку, палілі лом, абгарэў ён трохі.

Пакуль я круціўся на адным месцы перапалоханы, ня толькі страціў сьцежку, па якой ішоў, але і свой сьлед, закруціўся зусім:

— „Чорт мяне ведае, як я ўвайшоў у такую багну?!“—падумаў я, калі агледнуўся навокал.

— Брэм і той ня мог, здаецца, пралезьці праз гэтую багну, зарасьняк, праз гэтую суцэльную сьцяну маладога лесу, а я пралез. Сапраўды тут можна заблудзіцца, прапасьці,—сказаў я гучна сам сабе, стоячы на месцы.

— „Ну, хопіць!“—рашыў я і, сьмела, пакручваючы галавой, пачаў зноў прадзірацца ўперад у напрамку Малінавай рошчы, ступаючы няведама куды, у багну, у траву. Раптам зноў нешта засіпела ў траве, пад нагамі:— „Цьфу! Халера!“—сказаў я сам сабе і зноў, сам не разумеючы чаму, ня ведаючы чаго баючыся, хутка, нэрвова выхапляючы нагу за нагой з травы, пабег, бяз усякага напрамку, абы куды, каб толькі хутчэй выскачыць з гэтай багны.

Я бег, чапляўся, падаў, падымаўся і зноў бег; галінкі дрэў секлі мне твар да крыві, сучкі калолі вочы, крапіва і дзяды балюча ранілі рукі, якімі я, сьпяшаючыся, разгортваў навакол сябе расьліннасьць, каб пралезьці праз яе. Бег туды, дзе віднеўся вялікі лес, ведаючы тое, што гэты лес расьце на сухім месцы, а значыць там і не такая зарасьль. На гэтым поўным бегу я скочыў з калоды і ўехаў па самыя грудзі ў дрыгву—абедзьвюма нагамі. Каб хто бачыў, з якой пасьпешнасьцю, з якой нэрвовасьцю і спалохам я вылазіў з гэтай трасіны, з якім перапудам хапаўся за галінкі дрэў, за кусьцікі травы, каб хутчэй вылезьці з гэтага пекла!

Урэшце вылез! Гэта была беражніца балота, той самай „ашыны“,—таму тут было так топка, а там, далей, перада мной, віднеўся ўжо лес.

Вылезшы канчаткова з зарасьляй, я зноў пачаў шукаць сьцежку, якой я ішоў сюды. Сьцежкі ня было. „І панясло-ж мяне ў гэтую Малінавую рошчу?—падумаў я.—„Маліны, дзячыны,—хіба ў другім месцы гэтага няма?! Ды, ну іх! Пашоў-бы лепш па сухіх дзялянках лесу і знайшоў-бы гэта. Апрача таго, і прыемней там“.

І перад маімі вачмі паўсталі дзялянкі, пакрытыя зялёнай травой, з якой выглядалі дзе-ні-дзе абгарэлыя пні калісь стаяўшага тут лесу. А паміж імі стаялі нахіліўшыся да сонца белыя галоўкі кветак—рамашак, чырвонай канюшыны. І мне от так проста і ўдарыў у нос пах гэтых кветак, адчуваўся арамат іх. Я вышаў зноў на сьцежку.

— Чорт з ім, вярнуся назад.

І як толькі я падумаў, мне стала неяк шкода, шкода таго, што я не папаў у Малінавую рошчу, шкода і неяк сорамна, сорамна сваёй слабасьці, свайго маладушша.

— І як гэта я зьбіўся!? Але і трус-жа я, усё-ж такі, трус з пятак да вушэй! А добра было-б папасьці ў Малінавую рошчу. Ну, ладна, калі сёньня не папаў, дык у наступны раз набяруся сьмеласьці і абавязкова дайду!

З гэтымі думкамі я вяртаўся па сьцежцы назад і хутка вышаў на дарогу.

## II

Вышаў на дарогу, знайшоў мурожынку і лёг у халадку, пад арэхавым кустом, скінуўшы з плячэй стрэльбу, торбу і патранташ. Брэм расьцягнуўся каля мяне і цяжка дыхаў. Я глядзеў у чыстае блакітнае неба, па якім дзе-ні-дзе былі параскіданы, як абрыўкі ветразей, белаватыя воблачкі. Па целе пацякла нейкая салодкая стома, стала прахладна, прыемна і неяк радасна на сэрцы, радасна і сьмешна, а чаго сьмешна, дык хто яго ведае?.. Ці не ад таго, што я, паляўнічы, малады, здаровы чалавек, які радзіўся, можна сказаць, у гэтым лесе—струсіў яго, напалохаўся і ганебна ўцёк...

Прайшло мінут дзесяць, я адпачываў і любаваўся харастком навокал. Тым часам мой Брэм падняў галаву і завурчэў. Шэрсьць яго надулася, як гэта заўсёды бывае з сабакамі тады, калі яны пачуюць якую-небудзь небясьпеку. Я падняўся і азірнуўся навокал. Лес ледзь-ледзь заўважна шаптаў ліствой у верхавіньні, а навокал было ціха. Але Брэм падазронна глядзеў у канец дарогі. Раптам ён кінуўся туды, куды глядзеў, і злосна забрахаў. Я пачуў, што ідзе чалавек,—крокі яўна чуліся па зямлі.

— Брэм! Тубо! Даун!

Сабака вінавата завіляў хвастом, зірнуў на мяне, вярнуўся на месца і лёг. Хутка з-за арэхавага куста паказаўся босы чалавек, у белых запэцканых па калена і пажаўцеўшых штанох, якія маталіся вакол яго тонкіх ног. Такая-ж самая белая, саматканая была на ім і сарочка, засьцёгнутая зьверху на тонкай шыі чырвоным касьнічком ад хусткі. Чалавек гэты быў з маршчыністым, цёмна-чырвоным ад загару твары, на якім ляжаў адбітак буйных ветраў, сонца і сьвежага паветра. Ішоў ён хуткімі крокамі, заклапочана гледзячы карымі, вясёлымі вачмі сабе пад ногі, нібы баючыся пабіць пальцы аб карэньне дрэў па дарозе. Праз плячо ў яго была перакінута на вяровачцы стрэльба, а праз другое вісела торба, як відаць, з прыпасамі да стрэльбы. Як толькі ён параўнаўся з намі і ўбачыў сабаку, неяк машынальна спыніўся на месцы. Нібы зьдзіўлена, нібы спалохана паглядзеў на нас.

— Ня ўкусіць?—запытаўся чалавек, здымаючы стрэльбу з плячэй, маргнуўшы вясёлымі вачмі на сабаку і ўсьміхнуўшыся тонкай усьмешкай.

Потым чалавек ужо зусім спыніўся каля нас, паглядзеў на мяне, потым на сабаку і зноў усьміхнуўся, але другой усьмешкай, больш нейкай радаснай.

— Дзень добры!—сказаў ён.

— Добры дзень.

— Дзе гэта так намачыўся?—зьвярнуўся ён зноў да мяне, абглядаючы ногі.

Мне было сорамна прызнацца, што я хадзіў, не нашоў шляху і вярнуўся. Я прабурчэў.

— Так... от...

Чалавек сеў каля мяне і паклаў каля боку сваю стрэльбу з торбачкай. Потым выняў з каліты, якая вісела ў яго на поясе, кавалак газэціны, паклаў у яе табакі, скруціў цыгарку і прыкурыў ад маёй. У гэты час Брэм падняў галаву і ўжо спакойна, даверліва паглядзеў на чалавека: як відаць, мусіць, пазнаўшы ў ім паляўнічага.

— А гэта твой сабака? Мусіць качак хапае добра? Тутака такіх няма.

— Не! Яны, гэтыя сабакі, больш за цецярукамі. Стойку робяць, а не хапаюць.

— За цецярукамі? Стойку робяць? Цікава! Шмат дзічы набіваюць з ім?—Чалавек махнуў па маім твары сваімі карымі вочкамі.—А памятаеце, быў такі самы калісьці ў аб'езчыка, дык от добра хапаў качак.

Я паглядзеў на чалавека. Твар знаёмы, а пазнаць не магу, не магу прыпомніць, дзе і калі я бачыў яго, адкуль ён і як прозьвішча. А знаёмы твар. Знаёмы яго вочы, нейкія, адначасна, хуткія, рухомыя і прыветлівыя, радасныя вочы. І ўсьмешка яго нейкая заразіцельная, радасная, яскравая. Знаёма і бародка такая вострая, доўгая, клінам бародка. Дзе я яго бачыў? Чалавек, нібы ўгадаўшы мае думкі, загаманіў зноў:

— Хіба не пазнаеш?

— І пазнаю, і не пазнаю,—адказаў я.

— Максіма не пазнаеш?! Эээ! З аб'ездчыкам-нябожчык ужо зараз—з аб'ездчыкам колькі паахвоціліся... качак яму з балота выганяў. Бывала—ідзе ён, вазьму я палку, добрую палку, і пайду, пайду за ім. Яно і тое праўда, што было мне тады не да паляваньня,—дрэнна было! Тады-ж батраком я быў, якраз служыў у Тадывушаў. Але в аб'ездчыкам хадзіў, бывала, хаця сваёй якой-небудзь ламачыны і ня было,—апавядаў чалавек.—Бывала, улезу ў балота з палкай і давай „гасіць“ па вадзе, ды крычаць:—Атруу! Атуу! Ху-га! „Качкі пакідаюць выжарыны, а аб'ездчык страляе іх на сухім і не памочыцца. Настраляе, тады і мне дасьць...

— А ўсё-ж ткі не прыпамінаю.

— Максім, ведаеш, Максіма з Малінавай рошчы?—сказаў чалавек, шчыра адчаканьваючы кожнае слова, нібы ўкладваючы мне яго ў сэрца, каб я ўспомніў, паверыў.

— Ааа! Максім! Ведаю, прыпомніў! Ведаю, ведаю. Як ня ведаць?

І ў маёй памяці ўстаў вобраз мальца гадоў пад дваццаць, мальца, які ня меў свайго дому, сваёй крышы, роднага чалавека; мальца, які застаўся круглай сіратой і вырас у цяжкім горы, гнучы сьпіну перад багатымі, каб пракарміцца; мальца з дзіцячых гадоў пайшоўшага служыць парабкам за кавалак хлеба да вясковых „дабрадзеяў“. Мне тады было гадоў дзесяць. Малінавая рошча (вёска) знаходзілася ў трох вярстах і мы часта, бывала, пасьвілі з маліна ўскімі канюшкамі разам на адных пожнях коняй. Як я ўжо сказаў, тады было Максіму гадоў пад дваццаць. Прывядзем мы коні, зьбярэмся ўсё разам—канюшкі з Малінавай рошчы і з Канцоў, з нашай вёскі, і Максім прыедзе на чацьвярыку свайго гаспадара. Ва ўсіх амаль па кавалку хлеба, у некаторых бульбіна, а ў другіх і тое і другое, ды яшчэ скварка, а ў Максіма... пуста, ён і торбачкі нават ня меў. Гаспадар, у якога ён служыў, лепш даглядаў свайго сабачку Арапку, чым батрака. Тады Максім скажа:

— Марш усе па дровы!

А ў дровы хадзіць уначы было страшна: воўк, мядзьведзь, часьцяком бадзяліся ў начы па палёх, выходзілі з лясоў. І старэйшых баяліся дзеці, не маглі не паслухацца і ня ісьці па дровы. Максім скажа, а мы, усё-ж такі сядзім, глядзім ды маўчым.

— А калі ня хочаце па дровы ісьці, давайце дзяліцца хлебам, а то мой гаспадар ня даў мне. Тады, сукіны дзеці, сядзіце каля цяпла, ды ешце свае скваркі, хлеб, бульбу.

Мы згодзімся. Максім адкусіць кавалак хлеба у аднаго, у другога сала, а ў трэцяга бульбіну. А пасьля, як усё будзе зьедзена, скажа:

— Ну, дзеці вы! А цяпер сядзіце тут каля цяпла, пільнуйце аброці. Я сам дроў нанашу на ўсю ноч і коні буду пасьвіць.

І тады ён возьме галавешку, пойдзе, насабірае дроў, наносіць іх, адгоне коні яшчэ раз, перад раньнем, дагледзіць іх.

Не баяўся ён ні гоману цёмнага леса ўначы, ні сумнага завываньня ваўкоў, ні злоснага, такога злоснага, што мароз па шкуры бяжыць, калі чуеш яго, мармытаньня мядзьведзіцы. Усё гэта яму не пачым.

— Максім! Максімка,—крыкнуў я з радасьцю і хацеў было кінуцца яму на шыю, пацалавацца, але спыніўся, і толькі моцна, моцна пацiснуў яму руку.—Не пазнаў! От, скажы! Ну, давай закурым з гэтае прычыны, давай, як бывала на начлезе бульбоўнік курылі. Максім уздыхнуў:

— Было і гэтага! Усяго было!..

Потым ён прысунуўся ўжо бліжэй да мяне. З боку ляжала мая ламанка. Ён яшчэ раз скруціў папяросу, зацягнуўся і пусьціў праз нос дымок. Паглядзеў на мяне.

— Колькі такая каштуе?

Мне сорамна было неяк сказаць праўду і я знарок паменшыў кошт стрэльбы на палавіну.

— Рублёў, так, трыста пяцьдзесят.

— Огоо! Шмат, шмат. Згарэла-б яна! А, я, дык от, за дваццаць купіў і б'ю... б'ю і з яе.

— Ну, як-жа з ёй паляваць? Я пабаяўся-б і ў рукі ўзяць.

— Эээ! Чаго? От, глядзі, яна-ж спраўная,—сказаў Максім і пачаў круціць у руках стрэльбу, накіроўваючы на мяне.

Я адвярнуў галаву ў бок.

Мне здавалася, што абы толькі прыкрануцца да яе, як яна выстраліць, Максім заўважыў гэта і супакоіў:

— Раней і такой ня было,—сказаў ён.—Потым ужо, у шастнаццатым годзе, ці што, сам зрабіў сабе з кавалка трубы вадаправоднай. Усё баяўся з ёй, у стрэхі хаваў. Але ўжо ў восемнаццатым годзе быў здабыў пістаноўку рублёў за сем, дрэнная была, а ўжо ў дваццаць чацьвёртым купіў гэту.

Максім памаўчаў.

— Дзе-б гэта сабе ламанку купіць? Цяпер не прадаюцца, паляўнічых столькі, што стрэльбаў не набрацца. Гэта добра!

Максім змоўк і задуменна пачаў глядзець у бок, нібы ўспамінаючы старыну, тое далёкае і горкае мінулае, якое ён перанёс на сваіх плячох. Перад яго вачмі разінуўшы пастку стаяў цёмны лес.

Так! Было, было ўсяго, чорт-бы яго... І ўспамінаць не ахвотна. Што-ж мы будзем ляжаць?—заклапочана, неяк раптам, крыкнуў ён.—Ты будзеш паляваць?

— Хто яго... Я ўжо пробаваў, але...

— Гэта ты быў у Малінавай рошчы, што абмачыўся?

— Не. Я толькі хацеў, але...

— Ааа! Не папаў, значыць. Заблудзіўся. Там можна заблудзіцца, можна. Пасьля таго, як стала дзялянка, павалілі лес, так зарасло.

— Сьцежка тут недзе была?

— Ёсьць яна, ёсьць. Але толькі да балота, а там уся зарасла. Пойдзем, я правяду! — прапанаваў Максім.

Мне і хацелася і не хацелася падымацца, лезьці магчыма ў гразь зноў, разьляжаўся я.

— Ня бойся, са мной не заблудзіш. Дзе гэта ты так скочыў, аж па грудзі.

— Тут,—паказаў я рукой.

— Эээ! Вунь куды цябе занясло. Як гэта ты так зьбіўся з пуціны... аж пад рэчку. Ну, яно і так можна, бяз прывычкі, значыць, галава слабая, закружыцца і зойдзеш чорт ведае куды.—Хадзем!—сказаў ён.

Я падняўся. Брэм таксама падняўся, пацягнуўся і скігатнуў. Мы пашлі зноў той-жа сьцежкай, якой я ішоў і адзін. Максім уперадзе, а я ззаду.

— У нас сёньня не працуюць, выхадны. Ну, дык чаго, думаю, траціць час, пайду, а можа дзе цецярука ці што іншае,—гаварыў ідучы Максім.

Хутка мы вышлі зноў да таго-ж балота, дзе я блукаў Максім зусім сьмела, як добра знаючы ўсе тут сьцежкі, кароткім, але бадзёрым крокам павярнуў улева, потым управа; лёгка, як горны казёл, пераскокнуў калоду, мільгануў белай вопраткай за выварацьцю і вунь ужо яго толькі чорная барада відаць з-за дуба. Я ледзь пасьпяваў за ім. Брэм быў уперадзе, ловячы носам, які ён увесь час нёс падняўшы, пахі фаўны і флёры.

— Не адставай!—крыкнуў Максім, агляну́ўшыся назад.

Я нагнаў яго і мы ўвайшлі ў балота. Максім вызначыў рукой напрамак і пашоў проста, не зварачваючы ні ўлева ні ўправа на балота; пераскакваючы то калоду, то пакінутае і ўжо згніўшае дрэва; абыходзячы ўжо выжарыну, то вялізарную выварацьбураломіну. У яго рухах не адчувалася ні спалоху, ні самненьня; адна толькі ўпартасьць навучанага жыцьцём чалавека была ў яго рухах.

— От так і ў жыцьці,—загаварыў ён.—Так яно, як з табой сёньня. Саб'ецца чалавек з вернай дарожкі і пачне блукаць, пакуль выб'ецца зноў. Тады я, як малым застаўся пасьля сьмерці бацькі і маткі. Колькі паблукаў па сьвету, па людзёх і сьлёз колькі... Охо-хо!

— Што, што, Максім?—запытаўся я, бо ў гэты момант праваліўся ў дрыгву, ня гледзячы на тое, што Максім прайшоў тут і нават нагі не замачыў.

Ён астанавіўся і паглядзеў на мяне.

— Ты-ж ня ступай пасярод купін! Па купінах ідзі!—і ўжо ня гледзячы зноў загаварыў:—От так, я кажу, у жыцьці... у маім, значыць, блуканьня было... раней яшчэ.

— Так... Кепска табе было расьці,—сказаў я і перад маімі вачмі зноў мільганула постаць і фігура мальца—сіраты Максіма.

— І летась неяк... блукаў, быў...

— А што?—запытаўся я. Ты—дзе цяпер, Максім, сам сабе, у калгасе?

— Ооо! Не, чаго так сам сабе? У калгасе.

— А што там у цябе летась было?!

— Было! Было!—адказаў той і радасна ўсьміхнуўся.—Было тое, што чуць перамог. Гэтыя-ж усё Тадэвушы, у якіх я служыў. Дзе ты бачыў, каб батрак з гаспадаром сваім былым у калгасе ўжыліся. Скажаш яму што, дык ён: „Ты ня лезь, ты галапатнік, памятаеш, як я цябе карміў?“ Карміў, іш ты, сукін сын! Ён карміў!..—у задуменьні прабурчэў Максім.—Дык так і ў нас было. Сказаць на непарадкі трэба было, а Тадэвушам гэта не падабалася. Пачалі тачыць супроць мяне. Але, перамог іх.

Максім зноў аглянуўся назад, жадаючы ўпэўніцца, ці іду я за ім.

— Выкінулі былі з калгасу. Але, на другім сходзе, давай я іх разьбіраць па костачках, якраз быў прадстаўнік ад газэты. Давай разьбіраць, і так прышлося, што саміх Тадэвушавых прышлося выкінуць. Ды яно інакш і быць не магло. Народ-жа ведае, хто такі я і хто Тадэвушавы сыны. Даволі, папілі крыві нашага брата! Хопіць таго, што і так гадоў сем на іх працаваў. Зараз час не такі! А ты кажаш—сам?! Чаго, сам! Гаспадарка, дык ужо была завялася і свая, але начорта самому, калі разам лепей. Ты не адстаў. Дзе ты?—крыкнуў Максім, стаўшы на купіну, калі я пералазіў за кустамі праз выварацьв.

— Я вось!

— Ну, ідзі! Ужо хутка выйдзем.

Сапраўды, перад намі атрымалася чыстая паляна, заросшая густой травой. Дзе-нідзе тут тырчэлі амаль голыя, шэрыя, нізкія сасоначкі і такія ж самыя нізкія, кудластыя бяровкі. Гэта паляна загнула вузкай градой на некалькі кілёмэтраў між густога леса, па берагах зарослага вялізарным сасоньнікам і пахучым багуном. Адразу было відаць, што тут усякай дзічыны шмат.

— Ох, брат, ёсьць народзец!—заключыў Максім.

— А дзе зараз Тадэвушавы?

— Дзе!—з усьмешкай адказаў Максім.—А хто іх. Няма! Паехалі некуды... Ну, от тутака мы пастраляем. Давай-ка толькі закурым спачатку...

### III

Брэм адразу-ж, як толькі я выскачыў на паляну, заскакаў кар'ерам па траве ў пошуках птушкі. Вось ён павёў носам управа, павярнуў улева, выцягнуў хвост і дробнымі, асьцярожнымі крокамі, прыгінаючыся да зямлі, пацягнуў уперад. Мы прайшлі за ім так крокаў я паўсотні. Сабака пацягнуўся яшчэ трошкі, паставіў роста галаву і стаў.

— Нешта ёсьць,—сказаў Максім і зайшоў з правага боку сабакі ўперад, а я з левага. Вочы сабакі гарэлі і сам ён быў напруджан да апошняга накаленьня, але ўперад—ні на вяршок.

— Піль!—загадаў я.

Тады сабака памалу пашоў уперад і раптам, у гэты ж момант з травы фантанам паднялася птаха. Нашы стрэльбы выцягнуліся ўперад на руках; яшчэ адна сэкунда і птушка перавярнулася-б у паветры, але Брэм ня даў нам зрабіць гэтага, кінуўся за ёй. Гэта вылецеў бэкас. Мы яшчэ прайшлі некалькі і таксама ўзагналі пару бэкасаў, па якіх стрэліць мне не ўдалося, а Максім чамусьці не страляў, а толькі намерваўся пры ўзьлёце і зноў

апускаў стрэльбу. Але вось зноў пацягнуў Брэм і ўжо куды большымі, гарачэйшымі тэмпамі. Гэта было відаць па ўсіх яго рухах. Пацягнуў Брэм і стаў. Як і ў першы раз мы падышлі з абодвых бакоў да сабакі, стрэльбы выцягнуліся ўперад, упёрліся ў плечы, а пасьля каманды—„Піль" зноў-жа брызгамі фантана падняўся вывадак цецярукоў і засьвістаў крыламі ў паветры, роўна адзін каля аднаго, пацягнуў над травой і Брэм зноў ня даў стрэліць.

— Ах ты, касалапы!—сказаў Максім.

Вывадак праляцеў некалькі адлегласьці і расьсеўся на беразьняку.

— Цішшш!—сказаў Максім, схапіўшы мяне за рукаў.—Птушкі селі на бярозах.

— Ну!—адказаў я.

— Ну!—паўтарыў Максім.

— Давай падкрадацца!..

— Давай!

Мы пашлі. Брэма я адагнаў назад. Максім ціханька, адна за аднэй, перастаўляў ногі, мякка ступаючы на мох і траву, і ўглядаючыся ў птушак, якія выцягнуўшы галовы, глядзелі на нас. А я, як ня ступлю, абавязкова трэсьне пад нагой які-небудзь сучок ці хлюпне вада. Максім краўся, як зьвярок, як шашок, да сьпячых курэй, а я з грацыяй і павароттлівасьцю слона нязграбна ішоў за ім. Максім увесь час сьцішаў мяне.

Вось ужо блізка і бярозкі, вось і птушкі ўжо добра відаць, а ён усё крадзецца. Я яго лаўлю за руку, каб сказаць, што пара страляць, а ён толькі моргае мне, каб маўчаў. Але вось мы ўжо і зусім блізка. Стрэльбы ўпёрліся ў плечы і паветра ўскалыхнулася двума стрэламі, а разам з гэтым задрыжэлі лісты бярозак, патрывожаныя даляцеўшым туды шротам, паляцеў вывадак цецярукоў, два засталіся на траве. Я свайго ўзяў зараз-жа. Ён быў мёртвы. А цецярук, па якому страляў Максім, цягнучы па траве перабітае крыло, пусьціўся на ўцёкі, жалобна заклікаючы на дапамогу матку. Максім пабег за ім. Цецярук далей. І Максім за ім. Цецярук яшчэ далей, імкнучыся схавацца ў траве, але гэта мяшала зрабіць яму перабітае крыло. Максім кінуў стрэльбу на траву і пачаў лавіць цецярука, насьцігаючы яго. Цецярук тады хлопаў крыламі і зноў аддаляўся. Максім бег за ім і зноў насьцігаў, згінаўся і лавіў яго рукамі, як баба курыцу, але цецярук зноў уцякаў. Так цягнулася хвілін пяць. Урэшце птаха апынулася ў руках Максіма.

— У кусту злавіў!—сказаў, засопшыся Максім.—Схавацца хацеў. Іш, усякая тварына хоча жыць, сьмерці баіцца.

Я трымаў цецярука ў руках, пакуль Максім набіваў стрэльбу. Цела яго было цёпленкае і мяккае. Вочы то зацягваліся жоўтымі векамі, то зноў адкрываліся і глядзелі на нас. Цецярук імкнуўся вырвацца, а сэрца хутка-хутка, стукала ў яго целе.

Вось ужо стрэльба Максіма была зноў набіта порахам і шротам. Вось мы зноў ідзем разам з ім усьлед за сабакам. Вось зноў стойка, нашы стрэльбы ўпіраюцца ў плечы, а з травы вылятае вывадак цецярукоў. На гэты раз сабака не скакнуў уперад, не засланіў сабой птах. Я не агледзеўся, як стрэльба мая скакнула два разы ўверх ад аддачы і выкінула набой. Максім усё вадзіў стрэльбай, але стрэліў і ён. Цецярук перавярнуўся ў паветры і комам зваліўся на траву, забіты шротам напавал.

— Ах, чорт вазьмі, не вязе!—сказаў Максім, падымаючы за крыло птаху.

— Чым ты недаволен?—запытаўся я.

— Ах, дзівак! Я цэліў у двух, разам ляцелі а зваліўся толькі адзін,—загаманіў горача Максім.

— Эээ! Дык ты хочаш, па два адразу.

— А што-ж! З маёй ламачыны можна. Пробаваў.

Цецярукі, якія былі забіты з-пад гэтай стойкі, і мае і яго былі падабраны, пакладзены ў торбу, і мы зноў ішлі за сабакам, які, як і раней, браў то ўлева, то зноў управа, цягнуў проста, трымаючы нюх напагатове. Я з-пад стойкі забіў бэкаса, а Максім чамусьці і не страляў. Я запытаўся ў яго аб гэтым.

— А што з яго толку? Ні мяса, ні пяра. Арэх, а ня птушка!

-- Гммм...

— Ня люблю для пацехі страляць, губіць малых птушак,—супярэчыў Максім.—Навошта рабіць гэта, калі няма карысьці.

Я нічога не адказаў. Ды і што можна было адказаць, калі я адчуваў, што Максім праў па ўсіх пунктах.

З пал́дня мы кінулі паляваць. Дзічы набілі і ня шмат і ня мала. У мяне было тры цецярукі і адзін бэкас, а ў Максіма пяць птах і ўсе вялізарныя цецярукі.

Калі я вяртаўся дамоў, розныя думкі круціліся ў маёй галаве. Але на сэрцы неяк было спакойна і радасна. Добра таму, хто, адзін раз атрымаўшы задавальненьне на паляваньні, ужо ня зможа з ім растацца, ня можа забыць сьвежага раньня, калі ён ішоў па яшчэ халоднай траве, калі толькі прачынаецца жыцьцё, над ракой вісіць плёнка туману, пабялеў усход. Але вось, з-за небасхіла вылезла краем сонца, умыла кусты, траву сьветлай расой, асьвяціла туман, ад чаго ён стане чырвона-сізым, нейкім нібы жыдкім. Потым падуе ціхі вецярок, разарве яго на кавалкі, на хмаркі маленькія, падыме ўверх і пагоніць ад ракі, разьвее ў паветры. Адзін раз перажыўшы такое задавальненьне, правёўшы на адкрытым паветры такое раньне, злучыўшыся з прыродай, ужо ня ў сілах ніколі забыць гэтага ня ў сілах пакінуць паляваньне, не перажыць яшчэ такія прыемныя хвіліны. А перажыўшы яшчэ раз, хочацца ў трэці, у чацьверты і так пойдзе далей і далей. І тады ўжо чалавек становіцца вопытным разумным паляўнічым.

**Мік. Цэлеш.**

# НОВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ
# беларускага саюзу прамыслова-каапэрацыйных паляўнічых арганізацый (Белкахотсаюз)

## Агульнае палажэньне

1) Беларускі Саюз Прамыслова-Каапэрацыйных Арганізацый „Белкахотсаюз" зьяўляецца арганізацыйным і вытворча-гаспадарчым цэнтрам, кіруючым усёй сыстэмай прамыслова-каапэрацыйных паляўнічых арганізацый БССР.

2) Для выкананьня задач паказаных ў п. 1, Белкахотсаюз:

а) Распрацоўвае асноўныя прынцыпы, і мэтады будаўніцтва прамыслова-ахотнічай каапэрацыйнай сыстэмы,

б) распрацоўвае і, па іх зацьвярджэньні, ажыцьцяўляе пляны арганізацыйнага, гаспадарчага і вытворчага будаўніцтва прамыслова-каапэрацыйных паляўнічых арганізацый на аснове ўсямернага ўмацаваньня і разьвіцьця аграмаджаных форм прамысловай гаспадаркі.

в) распрацоўвае па згодзе з Калгасцэнтрам пытаньні па арганізацыі груп і брыгад у калгасах і забясьпечвае гэтыя групы і брыгады вытворчым абслугоўваньнем і інструктажам.

г) Распрацоўвае агульна-саюзныя апэрацыйныя вытворчыя і фінансавыя пляны сыстэмы і ажыцьцяўляе гэтыя пляны па іх зацьвярджэньні ў адпаведным парадку.

д) Распрацоўвае і па іх зацьвярджэньні ажыцьцяўляе пляны снабжэньня прамыслова-паляўнічых каапэрацыйных арганізацый усімі неабходнымі сродкамі вытворчасьці і гандлю.

е) Распрацоўвае і па іх зацьвярджэньні ажыцьцяўляе пляны нарыхтовак і збыта прадукцыі прамыслова-паляўнічых каапэрацыйных арганізацый.

ж) прапрацоўвае пытаньні павышэньня таварнасьці і павялічэньня экспартных рэсурсаў паляўнічай гаспадаркі на базе арганізацыі буйных агрмаджаных гаспадарак, шляхам рацыяналізацыі і палепшаньня тэхнікі па паляўнічай гаспадаркі і барацьбы з асяданьнем ў гаспадарках паляўнічых.

з) Ажыцьцяўляе мерапрыемствы па інструктаваньні і кіраўніцтву арганізацыйнай і вытворчай дзейнасьцю сыстэмы і па выкананьні дырэктыў партыі і ўраду; забясьпечвае правільнае клясавае накіраваньне і зьмест работы сыстэмы; арганізуе, падрыхтоўвае і перападрыхтоўвае кадры для прамыслова-каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмы, шляхам адчыненьня курсаў, а таксама і непасрэдным удзелам у камплектаваньні іх слухачамі (вылучэнства ў Навуковыя ўстановы і г. д.).

к) Кіруе арганізацыйна-масавай працай прамыслова-паляўнічай сыстэмы, шляхам правільнай пастаноўкі працы вытворчых нарад, па правядзеньні мерапрыемстваў па сацыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, пастаноўкі палітыка-культурна-асьветнай працы, утварэньне выставак і г. д.

л) Складае пляны капітальнага будаўніцтва, ажыцьцяўляе кіраўніцтва правядзеньнем капітальнага будаўніцтва і арганізуе мабілізацыю сродак для забесьпячэньня плянаў і мерапрыемстваў па капітальнаму будаўніцтву.

м) Прадстаўляе прамыслова-каапэрацыйную сыстэму па ўсіх пытаньнях, што да яе належаць, ва ўрадавых і грамадзкіх арганізацыях.

н) Патрабуе і заслухоўвае справаздачы сваіх сябраў аб дзейнасьці прамыслова-каапэрацыйных паляўнічых арганізацый.

о) Падрыхтоўвае і склікае зьезды і конфэрэнцыі па пытаньнях прамыслова-каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмы.

Утварае ўсялякія іншыя дзеяньні, што кранаюцца разьвіцьця і плянавага рэгуляваньня дзейнасьці прамыслова-каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмы БССР у мэтах пашырэньня сыр'явой і прадуктовай базы і пушна-мехавога і дзічачага экспарту.

п) Мае права ўнасіць законапраекты па пытаньнях прамыслова-каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмы ва ўрадавыя органы БССР праз Упаўнаважанага НКЗамежгандлю СССР пры СНК БССР.

р) Кіруе арганізацыяй, пастаноўкай вучоту і справаздачнасьцю прамыслова-каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмы і распрацоўвае інструкцыі, формы і намячае тэрміны па вучоту справаздачнасьці.

3) Белкахотсаюз вядзе сваю працу непасрэдна праз Рай Т-ва Саюза Паляўнічых і ажыцьцяўляе праз іх неабходныя мерапрыемствы.

4) Белкахотсаюз карыстаецца правамі юрыдычнай асобы і для ажыцьцяўленьня ўскладаемых на яго функцый мае права, у межах устаноўленых законаў, утвараць усе неабходныя дзеяньні, заключаць зьдзелкі, „Искать" і адказваць на судзе.

5) Па прынятых на сябе абавязацельствах, Белкахотсаюз адказвае ўсёй сваёй маемасьцю, не із'ятай з абароту.

6) Органы кіраваньня Белкахотсаюзу знаходзяцца ў Беларускім цэнтры.

7) Белкахотсаюз мае пячатку з абазначэньнем свайго найменьня.

## Склад сяброў Белкахотсаюз

8) Кожны сябра Белкахотсаюзу абавязан:

а) Падпарадкоўвацца пастановам і распараджэньням сходу ўпаўнаважаных праўленьня і прэзыдыуму праўленьня Белкахотсаюзу.

б) Весьці плянавую і апэрацыйную вытворную працу, згодна дырэктыў Белкахотсаюзу.

в) Арганізаваць вучот і прадстаўляць балянсы і справаздачнасьці аб сваёй дзейнасьці ў тэрміны і па форме, устаноўленыя Белкахотсаюзам.

г) Склікаць па запатрабаваньням Праўленьня Белкахотсаюза ці яго прэзыдыуму свае надзвычайныя сходы ўпаўнаважаных для абгаварэньня прапаноў Белкахотсаюзу.

д) Апавяшчаць праўленьне Белкахотсаюзу аб часе скліку сходаў упаўнаважаных, а таксама ўсялякіх зьменах свайго палажэньня і складу праўленьня.

9) Кожны ўступаючы ў Беларускі Саюз Прамыслова-Каапэрацыйных Паляўнічых арганізацый „Белкахотсаюз" абавязан унесьці аднаразовы ўступны ўзнос і адлічаць з паявога капіталу Саюзахотцэнтру—10%, Белкахотсаюзу—45% і Райтаварыству—45%, а таксама ўнасіць дадатковыя ўзносы ўстаноўленыя сходам упаўнаважаных Белкахотсаюзу.

## Сродкі Белкахотсаюза

10) Сродкі Белкахотсаюза складаюцца з капіталаў:

а) асноўнага;
б) паявога;
в) запаснога;
г) спэцыяльных капіталаў.

11) Асноўны капітал прызначаецца на вядзеньне бягучых апэрацый на набыцьцё маемасьці і складаецца;

а) з уступных і др. узносаў сяброў Белкахотсаюзу;
б) з штогадовых адлічэньняў з чыстага прыбытку.

12) Паявы капітал складаецца з адлічэньняў у памеры, паказаным у п. 9 гэтага палажэньня.

13) Запасны капітал прадназначаецца на пакрыцьцё ўсялякіх убыткаў па гадовай справаздачнасьці Белкахотсаюзу і складаецца:

а) з штогадовых адлічэньняў з чыстага прыбытку,
б) з процантаў на запасны капітал;
в) з іншых паступленьняў па пастанаўленьні схода ўпаўнаважаных.

14) Спэцыяльныя капіталы складаюцца па пастанаўленьні схода ўпаўнаважаных вызначанымі парадкамі стварэньня і выдатканьня спэцыяльных капіталаў.

## Органы кіраваньня і рэвізіі

15) Органамі Кіраўніцтва Белкахотсаюза зьяўляюцца—сход упаўнаважаных, праўленьне і прэзыдыум Праўленьня.

## Сход упаўнаважаных

16) Сход Упаўнаважаных Белкахотсаюзу зьяўляецца вышэйшым органам кіраваньня Белкахотсаюзу, складаецца з прадстаўнікоў раённых таварыстваў паляўнічых, якія выбіраюцца па норме: 1 прадстаўнік на кожных 500 чал. аб'яднаных у райтаварыстве паляўнічых.

Райтаварыствы Саюза паляўнічых, аб'яднаючыя менш 500 сяб-раў паляўнічых, абіраюць аднаго прадстаўніка.

17) Сходу ўпаўнаважаных падлягаюць наступныя пытаньні:

а) абгаварэньне і зацьверджаньне агульнага пляну працы, прыбыткова-выдатковых каштарысаў, гадавых справаздач і балянсаў;

б) ўстанаўленьне ліку сябраў праўленьня, прэзыдыуму праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) абраньне сябраў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

г) устанаўленьне разьмераў узносаў у асноўны, паявы і спэцыяльныя капіталы:

д) пытаньне аб зьмене палажэньня;

е) вырашэньне другіх пытаньняў, унасімых на агульных сходах упаўнаважаных па пастанове праўленьня і рэвізійнай камісіі;

ж) разьмеркаваньне прыбыткаў і ўстанаўленьне парадку пакрыцьця ўбыткаў;

18) Сходы ўпаўнаважаных бываюць:

а) чарговыя, склікаемыя праўленьнем Белкахотсаюзу 1 раз у 2 гады:

б) надзвычайныя, склікаемыя праўленьнем Белкахотсаюзу альбо рэвізійнай камісіяй.

19) Аб часе і месцы сходу упаўнаважаных, а таксама аб пытаньнях, падлягаючых яго разгляду, сябры Белкахотсаюзу павінны быць абвешчаны не пазьней як за 30 дзён да сходу;

20) Сход упаўнаважаных, пры ўмове захаваньня правіл одзыву ўпаўнаважаных, прызнаецца адбыўшымся пры наліччы прадстаўнікоў ня менш чым ад паловы агульнага ліку сябраў Белкахотсаюзу. Для вырашэньня пытаньняў аб зьмяненьні і дапаўненьні палажэньня аб ліквідацыі Белкахотсаюзу патрабуецца присутнасьць прадстаўнікоў ня менш як ад $^2/_3$.

21) Калі сход упаўнаважаных не састаяўся за няпрыбыцьцем устаноўленага артыкулам 20 ліку сябраў, склікаецца не пазьней, як праз месяц, другі сход упаўнаважаных, якія лічуцца правамоцнымі пры любой колькасьці сабраўшыхся.

22) Сход упаўнаважаных адчыняецца Прэзыдыумам Белкахотсаюзу. Сход абірае прэзыдыум у ліку што вызначаецца самім сходам і ўстанаўлівае рэглямэнт вядзеньня сходаў.

Рашэньні прымаюцца сходам Упаўнаважаных простай большасьцю галасоў, рашэньні аб зьменах і дапаўненьнях палажэньня Белкахотсаюзу, павінны быць прыняты ня менш чым $^2/_3$ галасоў прысутнічаючых упаўнаважаных.

Пратаколы сходу ўпаўнаважаных падпісваюцца яго прэзыдыумам. Кожны ўпаўнаважаны мае права па кожнаму пастанаўленьню ўнасіць у пісьмовай форме сваю асабістую думку для дадатку да пратаколу сходу.

## Праўленьне Белкахотсаюзу

23) Веданьню праўленьня падлягаюць:

а) абраньне прэзыдыуму праўленьня Белкахотсаюзу;

б) папярэдняе зацьверджаньне перад сходам упаўнаважаных і зацьверджаньне ў прамежках між сходам упаўнаважаных гадавых справаздач, балянсаў, прыбыткова-выдатковых каштарысаў і агульнага пляну працы;

в) заслухоўваньне справаздач сваіх сяброў аб дзейнасьці прамыслова-калектыўных паляўнічых арганізацый.

24) Паседжаньні праўленьня прызнаюцца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічае большасьць сябраў праўленьня, у тым ліку— старшыня, або намесьнік.

25) Пастанаўленьні праўленьня прымаюцца большасьцю галасоў.

26) Праўленьне Белкахотсаюзу абіраецца сходам упаўнаважаных, тэрмінам на 2 гады ў ліку, вызначаемым сходам упаўнаважаных.

27) Праўленьне Белкахотсаюзу склікаецца не радзей аднаго разу ў 6 месяцаў.

## Прэзыдыум праўленьня

28) Прэзыдыум праўленьня зьяўляецца выканаўчым органам Белкахотсаюзу, прадстаўляючым Белкахотсаюз без асобнай на то даверанасьці.

29) Прэзыдыум праўленьня вядзе ўсю бягучую працу і вырашае ўсе пытаньні, узьнікаючыя ў прамежках паміж паседжаньнямі праўленьня, прадстаўляючы даклады аб сваёй працы і прынятых рашэньнях—чарговаму паседжаньню праўленьня.

30) Прэзыдыум праўленьня абіраецца праўленьнем Белкахотсаюзу тэрмінам на 2 гады ў ліку вызначаемым сходам упаўнаважаных.

31) Дагаворы, даверанасьці і ўсякага роду абавязацельствы падпісваюцца старшынёю прэзыдыуму, або яго намесьнікам і адным з сяброў прэзыдыуму, ці асобамі ўпаўнаважанымі на тое даверанасьцю прэзыдыуму.

Усе дакументы і абавязацельствы грашовага характару замацоўваюцца Галоўбухам Белкахотсаюзу.

32) Разьмеркаваньне абавязкаў паміж сябрамі прэзыдыуму ўтвараецца прэзыдыумам.

## Рэвізіная камісія

33) Для праверкі справаздачнасьці Белкахотсаюзу і рэвізіі спраў упаўнаважаных абіраецца рэвізійная камісія ў складзе, вызначаемым сходам упаўнаважаных тэрмінам на 2 гады.

34) На рэвізійную камісію ўскладаецца:

а) пэрыядычная праверка налічча грашовых каштоўных папер і іншай маемасьці і зьлічэньня іх з кнігамі і дакумантамі;

б) праверка кніг, дакумантаў і прадстаўленьне сходу ўпаўнаважаных і праўленьню заключэньняў, як аб гадавой справаздачнасьці, каштарысе, пляну дзейнасьці, так і аб усёй дзейнасьці Белкахотсаюзу за справаздачны год.

35) Рэвізійная камісія сабіраецца па меры неабходнасьці вытварэньня паверачных дзеяньняў, рэвізійная камісія можа ўскладаць справу рэвізіі на асобных сяброў.

36) У выпадку выяўленьня істотных недахопаў або злоўжываньняў у справах Белкахотсаюзу, рэвізійная камісія мае права патрабаваць склікаьня надзвычайнага сходу ўпаўнаважаных, або праўленьня.

## Прыбыткі і страты

37) Чысты прыбытак Белкахотсаюзу за вылічэньнем з яго ўстаноўленых законам падаткаў, збораў і адлічэньняў у розныя фонды, разьмяркоўваюцца наступным чынам:

а) ня менш 10 проц. у запасны капітал;
б) „ „ 10 „ у фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня;
в) „ „ 5 „ у „ каапэраваньня і калектывізацыі беднаты і батрацтва:
г) „ „ 20 „ у асноўны капітал;
д) астатняя частка на мэты па пастанаўленьні схода ўпаўнаважаных.

38) Страты Белкахотсаюзу пакрываюцца ў адпаведнасьці з дзейнымі законамі і ў парадку, устанаўліваемым сходам упаўнаважаных.

## Рахункаводзтва і справаздачнасьць

39) Беларускі саюз прамыслова-каапэрацыйных паляўнічых „Белкахотсаюз" вядзе справаводзтва і справаздачнасьць, згодна існуючых дзейнічаючых узаканеньняў. Справаздачны год лічыцца з 1-І па 1-ХІІ.

40) Райтаварыства саюзу паляўнічых складае самайстойныя балянсы і каштарысы, а Белкахотсаюз складае зводны балянс па ўсёй сыстэме.

**Прэзыдыум праўленьня Белкахотсюзу**

---



Рэдкалегія: Волдынь і Вільдфлуш, Цэлеш і проф. Федзюшын.

Адказны рэдактар: А. Вільдфлуш

# Хроніка

25 верасьня 1932 г. **Крупскае т-ва** рапартавала праўленьню Белкахотсаюзу аб перавыкананьні гадавога пляну мабілізацыі сродкаў.

Плян паявых і мэтавых укладаньняў т-ва на 1932 год складае 4310 рублёў; мабілізавана 4685 руб. 31 кап.

Такім чынам т-ва выканала гадавы фінплян на 102 проц.

Т-ва ўзяло на сябе сацыялістычнае абавязацельства выканаць прамфінплян да канца 1932 году на 200 проц.

---

Дзякуючы апартуністычнай недааценцы загатовак пушмехсыравіны—**Крычаўскае** райтаварыства паляўнічых сарвала плян 3 кварталу, у той час як загатпункт Белп, выканаў.

За бязьдзейнасьць, халатн. справа старшыні праўленьня перадана пракурору.

---

Пастановай прэзыдыуму праўленьня Белкахотсаюзу зьнят з работы, з перадачай справы пракурору, старшыня **Пухавіцкага** райтаварыства паляўнічых **Кудзін**.

У выніку апартуністычнай бязьдзейнасьці старшыні, Пухавіцкае райт-ва, як гэта ўстаноўлена інструктарскім абсьледваньнем, сыстэматычна ня выконвала заданьняў Белкахотсаюзу.

---

# Ад рэдакцыі

Па зьвестках, якія дайшлі да ведама рэдакцыі „Паляўнічага Беларусі“ некаторыя вясковыя паляўнічыя купляюць бяздымны порах. Ад няправільнага ўжываньня бяздымнага пораху маюцца выпадкі разрываў стрэльб і калецтваў.

Рэдакцыя папярэджвае, што ўжываньне бяздымнага пораху патрабуе выключнай асьцярожнасьці.

Бяздымным порахам можна набіваць толькі тыя стрэльбы, што маюць на сабе адзнаку лацінскімі літарамі: „Nitro“, г. ё. стрэльбы высокага гатунку. Ні ў якім разе не дапушчальна адмерваньне пораху, а тым болей,—набой „на вока“.

Абавязкова дакладнейшая вага.

Здана ў друкарню 7-X—32 г.
Падпісана да друку 19-X—32 г.
Адказны рэдактар *Вільдфлуш*
Адк. карэктар друкарні *Міхалевіч*
Набрана брыгадай *Герасімовіча*

Заказ № 2368. 12.210 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—3.

Друкарня імя Сталіна.

Цана 30 кап.

# ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

## НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.

## ВЫПІСВАЙ НА 1933 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ!
Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопісь.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 1 год . . 3 р.
на паўгода . 1 р. 50 к.
на 3 мес. . . 1 р. —

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

У 1933 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.

Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.